ПАЭЗІЯ НАРОДАЎ СВЕТУ

# ЗАКАХАНЫ ВАНДРОЎНІК



## ПАЭЗІЯ НЯМЕЦКАГА РАМАНТЫЗМУ

*Пераклад з нямецкай мовы*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84.4Г
З-18

СЕРЫЯ ЗАСНАВАНА Ў 1971 г.



Укладанне і пераклад
*Уладзіміра Папковіча*

Прадмова
*І. Лапіна*

Пераклад зроблены паводле выданняў:

Brentano A. Werke in einem Band.— Brl. u. W.: Aufbau-Verlag, 1973.— 363 S.

Chamisso A. Werke in zwei Bänden. Erster Band: Gedichte. Dramatisches.— Lpz.: Insel-Verlag, 1981.

Uhland L. Poesiealbum — 128.— Brl.: Neues Leben, 1978,— 32 S. Eichendorfs Werke in einem Band.— Brl. u. W.: Aufbau-Verlag, 1975.— 344 S.

Müller W. Poesiealbum — 192.— Brl.: Neues Leben, 1983.

Книгу составили стихи немецких поэтов-романтиков XIX века, воспевающие любовь, родной край, молодость, жизнь.

З $\frac{4703010200-049}{М\ 302(03)-89}$ 156—89



ISBN 5-340-00289-6 (беларус.)

# ЖЫЦЦЯ ЧАРОЎНЫ ЦУД УСЛАВІЦЬ

Рамантызм, рамантыкі, рамантыка... I сёння гэтыя словы, якім бы розным сэнсам ні поўніліся, будзяць у нашых сэрцах шчымлівае адчуванне трывогі і незаспакоенасці, клічуць у дарогу, вабяць марай пра шчасце, дабрыню, каханне. Тым больш цікава разам з паэтамі ўжо далёкай па часе эпохі рамантызму вярнуцца да тых вытокаў, дзе нараджалася непаўторнае лірычнае адзінства чалавека і прыроды, дзе неўтаймоўная стыхія абуджаных жаданняў асобы, волі, пачуццёвага жыцця паўстала супраць змярцвелага прагматызму рацыяналістаў. Яшчэ В. Р. Бялінскі сказаў пра сутнасць рамантычнага светаадчування: «Сфера яго — усё ўнутранае, задушэўнае жыццё чалавека, той таямнічы грунт душы і сэрца, адкуль уздымаюцца ўсе неакрэсленыя імкненні да лепшага і ўзвышанага, стараючыся знаходзіць сабе задавальненне ў ідэалах, якія творыць фантазія» (Белинский В. Г. Полн. собр. соч.— М.: 1955.— Т. VII.— С. 46).

Эпоха рамантызму храналагічна абмежавана ў асноўным канцом XVIII — першай трэццю XIX стагоддзяў і вылучаецца асаблівым тыпам ідэалагічных і мастацкіх адносін творчасці да рэчаіснасці. Пры значных адрозненнях асобных аўтараў у светаразуменні, творчых установках (сродкі стварэння вобраза, характар будовы сюжэта, асаблівасці кампазіцыі, пафас), рамантыкі адзіныя ў праслаўленні «духу» і абароне яго ад прыгнёту «матэрыі». Яны не прымаюць буржуазнага грамадства з яго культам рэчаў і нажывы, жорстка асуджаюць навакольны свет за тое, што ў ім духоўныя вартасці (каханне, дружба, шчырасць, прыгажосць) аддаюцца ў ахвяру матэрыяльнаму разліку.

Пагарджаючы утылітарызмам ва ўсіх яго праявах, рамантыкі мараць пра такія грамадскія адносіны, дзе людзей яднали б не матэрыяльныя, а духоўныя сувязі. Іх нянавісць да існуючага сацыяльнага парадку вельмі часта выліваецца ў рэзка сатырычнае, гратэскнае выяўленне ўсіх тых, хто ўсталёўваў і падтрымліваў такі парадак. З другога боку, процілеглым пафасам дыхаюць пазначаныя шчырай сімпатыяй, выразныя, трапныя замалёўкі пазасацыяльных, пазабюракратычных сувязей чалавека з навакольным светам, асабліва з прыродай, блізкімі па духу людзьмі. Станоўчае рамантыкі заўсёды шукаюць па-за феадальным і бюргерскім побытам, і тым самым яны прынцыпова адрозніваюцца ад рэалістаў, якія, крытыкуючы, знаходзяць прыгожае і ў акаляючым сацыяльным свеце, жыцці. Усё гэта паказвае і бескампраміснасць рамантызму, і яго утапічнасць, і перавагу, якую ён аддае жывому назіранню над схаластычным мудрагельствам, і неаслабную ўвагу да рэальнай стыхіі народнага жыцця, у якую натуральна ўплятаюцца фантазія, выдумка, міф.

Рамантызм у Германіі, як і ў суседніх еўрапейскіх краінах, фарміруецца пад непасрэдным уплывам падзей Вялікай французскай рэвалюцыі 1789—1794 гг. І хоць у германскіх дзяржавах гэту рэвалюцыю не толькі не віталі, але і зрабілі ўсё магчымае, каб яе задушыць, а калі гэта не ўдалося,— збіць узнятую ёй антыфеадальную хвалю, жыццё і культура немцаў не маглі ўжо развівацца ў ранейшым рэчышчы. З прычыны гістарычна абумоўленай адсталасці Германіі большасці нямецкіх пісьменнікаў-рамантыкаў (як выключэнне можна назваць Ф. Гёльдэрліна, А. Шаміса, Г. Гейнэ) аказалася незразумелым гістарычнае, прагрэсіўнае значэнне падзей у Францыі, затое яны змаглі асабліва востра адчуць нязбытнасць асветніцкіх ілюзій, бездухоўнасць не толькі феадальных адносін, якія

перажывалі занепад, але і буржуазных, якія толькі ўсталёўваліся. Нярэдка прытрымліваючыся рэакцыйных поглядаў у палітыцы, яны былі больш празорлівымі ў мастацкім прадбачанні антыгуманнай сутнасці новага класа, які захапіў уладу. І невыпадкова, калі напалеонаўская Францыя рынулася на заваяванне нямецкіх зямель, менавіта рамантычным паэтам удалося стварыць выдатныя ўзоры патрыятычнай лірыкі.

Калі не закранаць больш дэталёвай перыядызацыі, у гісторыі нямецкага рамантызму можна вылучыць два асноўныя этапы: 1) ранні, або йенскі, рамантызм (канец 90-х гадоў XVIII стагоддзя і першыя гады XIX стагоддзя); 2) позні рамантызм (прыблізна 1806—1830 гг.), які прадстаўлены шэрагам адрозных адна ад адной школ. Йенцы першыя засяродзілі ўвагу на глыбінях духоўнага свету асобы, якая ўяўляецца ім цэнтрам сусвету, катэгорыяй філасофскай і эстэтычнай, але не сацыяльнай. У музыцы, мастацтве, паэзіі яны бачылі найвялікшыя магчымасці для рэалізацыі духоўных патэнцый індывідуума, а праз гісторыю і фальклор імкнуліся раскрыць рысы яго нацыянальнага характару. Трагічнае сутыкненне эмацыянальна-эстэтычнай утопіі з пачуццёва ўспрынятай канкрэтнай рэчаіснасцю параджае рамантычную іронію, характэрнае для йенцаў адчуванне нестабільнасці, дысгармоніі свету.

Познія рамантыкі, у прыватнасці Брэнтана, Шаміса, Уланд, Айхендорф, Мюлер, з чыёй паэзіяй мы знаёмімся, шмат што ўнаследавалі ад сваіх папярэднікаў, шмат што перагледзелі ў адпаведнасці з новай абстаноўкай. У складаных умовах напалеонаўскай акупацыі і маруднага ўсталявання нямецкай дзяржаўнасці яны першарадную ўвагу звяртаюць на распрацоўку нацыянальна-гістарычнай праблематыкі, на фарміраванне агульнанямецкай свядомасці. Якраз позняім рамантыкам належыць асаблівая заслуга ў ад-

крыцці невычэрпных багаццяў германскага фальклору, у асэнсаванні сярэдневякоўя і Адраджэння як значных, змястоўных эпох у гісторыі айчыны. Калі для йенскіх паэтаў цудоўнае, чароўнае, фантастычнае ў пэўнай ступені атаясамліваецца з утапічным абсалютам, то на наступным этапе рамантызму свет казачнага, ідэальнага прыкметна выцясняецца рэальнасцю, урэшце падпарадкоўваецца ёй. Актыўнае выкарыстанне на гэтым этапе фармальных сродкаў народнай песні, удасканаленне мовы з мэтай дасягнення большай прастаты і даходлівасці, адмаўленне ад рытарычных акрас, узмацненне лірычнасці, мілагучнасці верша стала ўвойдуць у паэтычны арсенал новых пакаленняў нямецкіх паэтаў.

Значным рэфарматарам нацыянальнай паэзіі, першым з нямецкіх рамантыкаў, у творчасці якога лірыка займае вызначальнае месца, стаў *Клеменс Брэнтана* (1778—1842). Найбольш вядомы выдадзены ім з Л. А. Арнімам зборнік вершаў, песень і балад «Чароўны рог хлопчыка» (1806—1808). Брэнтана з'яўляецца аўтарам рамана «Годві» (т. 1—2, 1799—1800), у якім упершыню з'явілася на свет славутая «Ларэлея», а таксама вялікай колькасці лірычных вершаў, балад, апавяданняў, казак.

Лірыка Брэнтана вельмі суб'ектыўная, яе глыбока асабісты характар адчуваецца нават там, дзе, як, напрыклад, у баладах, моцна гучыць аб'ектыўна-апавядальны народны пачатак. Хоць паэт не цураецца грамадзянскіх інтанацый, усё ж зыходнай асновай яго светапогляду застаецца рамантычны індывідуалізм. На гэтым грунце самай прывабнай сферай быцця, найважнейшай часткай духоўнага свету чалавека выступае каханне. Хваравітае адчуванне дысгармоніі рэальных грамадскіх адносін пазбаўляе гармоніі і каханне. Разам з радасцю яно тоіць у сабе і пакуты,— ласкі каханай зменлівыя і мімалётныя. У цэлым шэрагу

вершаў Брэнтана ўзнікае ірацыянальная трактоўка кахання як незямных, тагасветных адносін, ёсць тут і элементы рамантычнай іроніі як літаратурнага прыёму. Большасці вершаў паэта ўласцівы лірычная напружанасць, няроўнасць фармальна-рытмічнага ладу, рэдка ўжываюцца чатырохрадковыя строфы, затое вельмі часта яны складаюцца з пяці і больш радкоў. Часта ў адным вершы сутыкаюцца строфы з рознымі памерамі.

Брэнтана з'яўляецца таксама адным з першых сярод тых рамантычных паэтаў Германіі, хто непасрэдна звярнуўся да засваення народнай паэтычнай традыцыі, хто стварыў на яе аснове народную баладу XIX стагоддзя. Праўда, вопыт народнага верша не заўсёды набываў у яго лірыцы дастаткова арганічнае праламленне ў духу тагачасных паэтычных прынцыпаў. У многія свае творы Брэнтана пераносіў як фармальна-мастацкія прыёмы фальклору, так і відавочна стылізаванае наіўнае светаразуменне творцаў народных песень, што заўсёды пакідае пэўны налёт штучнасці. Тым больш прываблiваюць паэтавы балады і песні на народнай аснове, асабліва тыя, якія групуюцца вакол тэмы Рэйна. Лепшая з іх — балада без назвы, якая з часам стала славутай «Ларэлеяй». Не маючы непасрэднага папярэдніка ў фальклоры, з'яўляючыся плёнам мастацкага вымыслу Брэнтана, яна нарадзіла самастойную рамантычную легенду, стварыла пэўную паэтычную традыцыю ў нямецкай нацыянальнай культуры. На яе аснове ўзнік сусветна вядомы лірычны шэдэўр еўрапейскага рамантызму — «Ларэлея» Г. Гейнэ.

Бясспрэчны вялікі ўплыў Брэнтана на далейшае развіццё рамантычнай лірыкі ў Германіі. Крыніцай гэтага ўплыву з'яўляецца як уласна творчая дзейнасць паэта, так і збіранне разам з Арнімам, рамантычная перапрацоўка фальклорнай і аўтарскай паэзіі,

якая з глыбіні вякоў дайшла да XIX стагоддзя. Бліскучым вынікам самаадданай працы гэтых двух аўтараў стаў трохтомны зборнік «Чароўны рог хлопчыка», які пераканаўча даводзіў суайчыннікам, падзеленым межамі на сотні вялікіх і маленькіх дзяржаў, што яны складаюць адзіную нацыю з багатым культурным мінулым. Калі ўлічыць, што зборнік выходзіў у гады бязлітаснай барацьбы немцаў з напалеонаўскай Францыяй, стане больш зразумелай як эстэтычная, так і грамадска-палітычная яго накіраванасць. Жывое развіццё ідэйна-эстэтычных адкрыццяў «Чароўнага рога хлопчыка» мы знойдзем у паэзіі Уланда, Айхендорфа, Мюлера.

Асаблівае месца ў нямецкім рамантызме займае *Адэльберт Шаміса* (1781—1838). Французскі арыстакрат, які ў маладосці з бацькамі эмігрыраваў са сваёй краіны і які толькі к пятнаццаці гадам заняўся вывучэннем нямецкай мовы, ён стане адным з самых значных прагрэсіўных пісьменнікаў Германіі той пары, прызнаным вучоным-прыродазнаўцам. Спалучэнне дзвюх якасцей — літаратара і натураліста — пройдзе праз усё жыццё Шаміса, а адным з прыкладаў гэтага можна назваць яго ўдзел у кругасветным падарожжы 1815—1818 гг. і апублікаванне дзённіка «Падарожжа вакол свету» (1834—1836).

Сусветную вядомасць прынесла Шаміса аповесць «Незвычайная гісторыя Петэра Шлеміля» (1814), у якой расказ пра лёс чалавека, які прадаў свой цень д'яблу,— гэта і рамантычная перапрацоўка старажытных паданняў, нямецкіх народных кніг, і рэалістычнае адлюстраванне псіхалогіі чалавека, спакушанага багаццем. Рэалістычныя тэндэнцыі, дэмакратызм, цікавасць да сацыяльнай праблематыкі ўласцівы і паэтычным творам Шаміса. Назавём хоць бы паэму «Выгнанцы», лірычныя цыклы «Песні і абразкі жыцця», «Каханне і жыццё жанчыны» (1830), «Нямецкія

народныя паданні» (1831). Яго паэзія пазбягае суб'ектыўна-лірычных вершаваных форм, яна імкнецца да інтанацый апавядальных, эпічных, да жанру балады. Самы рацыяналістычны з усіх нямецкіх рамантыкаў, паэт не прымае ўмоўнасці і паэтычнай недакладнасці фальклорнай мовы, таму, ахвотна беручы сюжэты з народных твораў, ён перадае іх у стылі тагачаснай кніжнай літаратуры.

Характар узаемасувязі фальклору і літаратуры ў Шаміса добра прасочваецца ў цыклах «Каханне і жыццё жанчыны», «Песні і абразкі жыцця». У іх тэматычнай аснове лёгка выяўляюцца ўласцівыя народнай традыцыі расказы пра вернае, пакорлівае і самаахвярнае жаночае каханне. Паэт старанна зберагае характэрныя для фальклору бытавыя падрабязнасці, асабліва чуллівыя і фантастычныя моманты. Але агульная танальнасць вершаў набывае ўжо тыповую для рамантычнай лірыкі накіраванасць, дзе жанчыны паўстаюць створанымі для кахання-служэння, умеюць моўчкі пакутаваць, цалкам аддаюцца страснаму пачуццю, не патрабуючы нічога для сябе. Любоўныя сюжэты ў Шаміса даволі часта змыкаюцца з тэмай сацыяльнай няроўнасці, паэту блізкія і зразумелыя турботы простых гараджан і сялян — вось чаму яго справядліва прызнаюць адным з самых адданых прыхільнікаў дэмакратызацыі нямецкай паэзіі XIX стагоддзя.

*Людвіг Уланд* (1787—1862) па многіх прыметах стаіць у эпіцэнтры позняга нямецкага рамантызму, спалучаючы ў сабе найбольш важныя, часта супярэчлівыя яго тэндэнцыі. Паэт, драматург, даследчык літаратуры, ён найбольш вядомы як аўтар песень, балад, рамансаў (першы зборнік 1815 г.), грамадзянскага цыкла «Патрыятычныя вершы» (1815—1819), гістарычных драм «Эрнст, герцаг Швабскі» (1818) і «Людвіг Баварскі» (1819), гісторыка-літаратурнага даследавання «Працы па гісторыі паэзіі і сагі» (т. 1—8, 1865—

1873). Як бачым, Уланда асабліва цікавіла праблема ўзбагачэння сучаснай літаратуры скарбамі нацыянальнай народнай паэзіі і міфалогіі. Абстрактна-філасофскую ідэю йенскіх рамантыкаў аб стварэнні нацыянальнай міфалогіі ён ажыццяўляе на справе шляхам збору, публікацыі і паэтычнай перапрацоўкі згубленых, малавядомых помнікаў культуры мінулых эпох, асабліва сярэдневякоўя.

Уланд імкнуўся зрабіць здабыткам сучаснікаў не толькі шэдэўры славеснай творчасці нямецкай даўніны, але і мастацкія скарбы старажытнаскандынаўскай і старафранцузскай літаратур, па першакрыніцах вывучаў іспанскіх аўтараў, цікавіўся англійскай, італьянскай літаратурамі, партугальскай мовай. Разам з тым паэт неадназначна ацэньвае мінулыя часы. У многіх баладах Уланда сярэдневякоўе паказваецца ва ўсёй яго непрывабнай і крывавай жорсткасці. Прысутнасць здаровага народнага гумару не дазваляе занадта захапляцца доблесцямі і подзвігамі рыцараў і каралёў, бардаў і пастухоў, якія так часта сустракаюцца ў творах пісьменніка. Зусім іншая танальнасць тых твораў, дзе ўслаўляюцца Раланд і Зігфрыд, Карл Вялікі і Вільгельм Тэль — любімыя героі народных паданняў. Праз іх вобразы, праз уласцівыя ім якасці — маральную чысціню, мужнасць, вытрымку, любоў да свабоды і да свайго народа — Уланд імкнуўся духоўна ўзвысіць сваіх сучаснікаў. Найбольш ідэалізаванымі паўстаюць у яго творах вобразы мілых рамантыкам сярэдневяковых паэтаў, пачынальнікаў Адраджэння, трубадураў, мінезінгераў, Бертрана дэ Борна, Тальефера, Дантэ, Петраркі. Так да гераічнай тэмы далучаецца тэма грамадзянскай місіі паэта і паэзіі, што разам з матывам кахання, захаплення прыродай, элегічнага суму стварае той незвычайны свет уландаўскай паэзіі, які прывабіў шматлікіх яе паслядоўнікаў.

Усебаковае засваенне фальклорнай традыцыі, арга-

нічнае спляценне яе ў адзінае цэлае з тагачасным узроўнем паэтычных уяўленняў уласціва і *Ёзэфу Айхендорфу* (1788—1857). Найбольш вядомы яго лірычныя «Вершы» (1837), шматлікія навелы, лепшыя з якіх — «Мармуровая фігура» (1819), «З жыцця аднаго нягдары» (1826), «Замак Дзюранд» (1837), «Рыцары ўдачы» (1841), раманы «Прадчуванне і рэальнасць» (1815), «Паэты і іх спадарожнікі» (1834), эпічныя паэмы «Юліян» (1853), «Люцый» (1857), драматычныя творы, эсэ, мемуары. Рысай, якая аб'ядноўвае ўсе творы Айхендорфа, да якога б роду і жанру літаратуры яны ні належалі, з'яўляецца песенны лірызм, што пранізвае іх, жыццёвая дынаміка, рытмічная паўтаральнасць характэрных вобразаў, станаў душы і прыроды, словазлучэнняў, рыфмаў, карцін навакольнага свету.

Паэтычныя інтарэсы Айхендорфа амаль выключна звернуты да прыроды. У пейзажнай лірыцы ён дасягае дзівосных вышынь, па-майстэрску ўплятаючы патрыятычныя матывы ў шматфарбныя гімны роднай зямлі. Лірычны герой паэта, які знаходзіцца ў рамантычнай гармоніі з прыродай, бясконца вандруючы і з ненатоленай прагай абсалютнай свабоды, заўсёды імкнецца да далёкага і няпэўнага ідэалу. Толькі ў недасяжных далях яму можа памроіцца будучае шчасце, сімвалам якога выступае «блакітная кветка» — вобраз, што ідзе яшчэ ад Наваліса.

Творчасць *Вільгельма Мюлера* (1794—1827), напэўна, можна лічыць вяршыняй арыентацыі нямецкіх рамантыкаў на фальклорна-песенную традыцыю (гэта датычыцца зборнікаў «Анталогія мінезінгераў» (1816), «Семдзесят сем вершаў з уцалелых папер аднаго вандроўнага валтарніста» (1820). Хоць ён пісаў і ў эпісталярным жанры («Рым, рымляне і рымлянкі», т. 1—2, 1820), і палымяныя цыклы ў абарону грэчаскага народа-змагара («Грэчаскія песні» (1821), «Новыя грэчаскія песні» (1823), «Найноўшыя грэчаскія песні»

(1824), самай прыцягальнай рысай яго паэзіі застаецца народнасць, прастата і чысціня гучання.

Лірычны герой Мюлера — вандроўны чаляднік ці млынар — зусім у народным духу наіўны і абмежаваны, чысты і непасрэдны. Матыў вандроўкі, які па-рознаму вар'іруецца паэтам, служыць цудоўным фонам для сентыментальна афарбаванай любоўнай тэматыкі, раскрыцця свабодалюбівых імкненняў, якія адлюстроўваюць дэмакратычныя тэндэнцыі рамантычнага індывідуалізму.

Такім чынам, завяршаючы агульнае знаёмства з аўтарамі вершаў, прапанаваных увазе чытача ў гэтым зборніку, хацелася б яшчэ раз напомніць, што якую б прывабную для сябе тэму ні распрацоўвалі рамантыкі — кахання, прыроды, летуценняў, вандровак,— вызначальным для іх заставалася мастацкае раскрыццё чалавека, надзеленага неабмежаванымі творчымі магчымасцямі. Услаўленне неўміручасці жыцця, вылучэнне асобы ў цэнтр сусвету бачылася рамантыкам як шлях дасягнення ў будучым найвышэйшых грамадскіх і грамадзянскіх ідэалаў. Калі пагадзіцца з думкай, якая ўжо даўно ўсталявалася, што лірыка найбольш здольна раскрыць унутраны свет чалавека, то несумненна па гэтай прычыне менавіта да яе больш за ўсё любілі звяртацца рамантыкі. Невыпадкова іх лірычныя вершы натхнялі Шумана, Шуберта, Вебера, Мендэльсона, іншых кампазітараў мінулага і сучаснасці на стварэнне сапраўдных шэдэўраў сусветнай музычнай культуры.

І. ЛАПІН,
кандыдат філалагічных навук



Табе букецік кветак
Нарваць я ў сад пайшоў,
Ды цёмна стала гэтак —
Ніводнай не знайшоў.

Не мог сабе даць рады —
І слёзка пацякла.
Тут ружа сярод саду
Прыгожа расцвіла.

Быў я сарваць гатовы
Яе, што так цвіла,
Але пачуў я словы:
«Ах, не чыні мне зла!

Чуллівы, добры будзь ты
І май у сэрцы боль,
Не зрынь мяне ў пакуты,
Загінуць не дазволь».

І я, пачуўшы гэта,
Даверыўся журбе.
Я не прынёс букета,
Каханая, табе...

Дарэмнае чаканне...
Ёй іншы дарагі.
Сапраўднае каханне
Не ходзіць без тугі.



На змярканні ў вір глыбокі
Сонца зморана ўпадзе —
У зары палаюць шчокі,
Ноч зажурана ідзе.

Без кахання ў вір глыбокі
Упаду я, сірата.
Дзе вы, губы, дзе вы, шчокі —
Полымя і пекната?

Змрок начны ў сабе схавае
Радасць шчасця, горыч зла,
Ды міргне душа жывая
З бляску зорнага святла.

Я ў маўклівасці хаваю,
Што хвалюе так мяне.
Скажа ўсім сляза жывая:
Не памрэ каханне, не!

* * *

Чаго ты засмуціўся,
З якой такой нуды
Твой позірк замуціўся —
Ці з крыўды, ці з бяды?

Цвітуць лугі, палеткі,
Булькочуць ручайкі,
Гарань-палаюць кветкі,
Мільгаюць матылькі.

Іх бачу я, іх чую я,
З усімі імі мы адна сям'я.
Ды без каханай цэлы свет пусты.
Ах, гэтага не зразумееш ты.

Скажы мне, што з табою:
Брыдзеш, дзівак такі,
Не сцежкай баравою,
А лесам нацянькі?

І нібы на пацеху,
На ўсе лады свае
Насмешліваė рэха
Гамоніць і пяе.

І чую я, і клічу я,
З усімі імі мы адна сям'я.
Ды без каханай цэлы свет пусты.
Ах, гэтага не зразумееш ты.

А што, як зразумею...
Паныла не глядзі.
І я кахаць умею.
Не бойся, падыдзі.

Дык будзем весяліцца
У векавым бары,
І песні будуць ліцца,
Напоўняць лес стары.

Тру, лю, ля, ля, тру, лю, ля, ля,
Танцуем ты і я і ўся зямля.
Каханая мая, ах, каб не ты,
То быў бы цэлы свет зусім пусты...



У Севілью, у Севілью,
Дзе харомы і палацы
З пыхай неба падпіраюць,
Дзе зляпелыя ў багацці
Панны з вокан пазіраюць —
Не, туды я не хачу!

У Севілью, у Севілью,
Дзе на вулках небагатых
Сустракаюцца суседкі,
Дзе між кветнікаў стракатых —
Прыгажуні, нібы кветкі...
Вось куды ляціць душа!

У Севільі, у Севільі
Ёсць маленькі нешыкоўны
З цёплай кухняю дамочак.
Там жыве мой скарб каштоўны,
Каля брамкі — малаточак.
Толькі стукну — адамкне.

Добры вечар, добры вечар,
Тата мілы — павітае.
Сядзьце — шчасця не хавае.
Мне і кніжку пачытае,
Мне і песню праспявае...
Роднае маё дзіця.



Гайдае Рэйн мяне ў чаўне.
Вясну спаткаць хачу.
І лёгка і трывожна мне.
Мігціць святло ўваччу.

Крутыя горы, як сцяна.
Між іх мой спеў гучыць.
Снуюць русалкі ля чаўна,
І рэха з гор крычыць.

О рэха, жахам не глушы,
Не гойсай па гарах.
Кахання не забі ў душы,
Паганскі дзікі страх.

Русалкі, згіньце пад вадой,
Ваш спеў — не палюблю.
Я п'ю свяжак, як сырадой,
Я мэты не згублю.

О пал кахання... ён заве,
Каб спапяліць датла.
На поўдзень лодачка плыве —
У вір бы не пайшла.

Хоць у кахання шмат дарог —
Не заблуджу нідзе.
Таго, хто сэрцам верыць, бог
Да мэты давядзе.

Дай волю мне, анёл святы,
Дай радасці з нябёс.
Ты — кветка, сімвал пекнаты,
Ты — мой шчаслівы лёс.

Ты ў весніх снах маіх жыла —
Званочак лугавы.
Твой кубак зроблен не са шкла —
З празрыстай сінявы.

Блакітны кубачак... у ім
Каханне і вясна,
Труці ж мяне пітвом сваім...
Я вып'ю ўсё да дна.

Самкне пялёсткі кветка ў сне.
Як смагу мне прагнаць?
Дазволь да ног прыпасці мне
І ля цябе сканаць.

Ф а б і ё л а

Чуеш: флейта штось пытае,
Ціха ручаі гамоняць?

П і я с т

Зорны спеў на дол злятае,
Бомы залатыя звоняць...

Ф а б і ё л а

Просьба, мяккая пяшчота
У душу маю ляцяць.

П і я с т

Праз начную сон-дрымоту
Гукі, як агні, мігцяць.

# НАЧНАЯ ПЕСНЯ ПАПРАДУХІ

У даўнія гадочкі
Пеў салавей, не ціх.
Сядзелі мы ўдваіх,
Як тыя галубочкі.

Не плачу я — спяваю,
Я прэч ганю нуду.
Я кужалёк праду,
Пакуль мне месяц ззяе.

Нам, ціхім галубочкам,
Пеў салавей, не ціх.
Цяпер мы не ўдваіх —
Асірацела ночка.

Пакуль мне месяц ззяе,
Спакою не знайду.
Да божанькі дайду —
Няхай ён нас з'яднае.

Асірацела ночка,
Ды салавей не сціх.
Я мрою: мы ўдваіх,
Чакаю галубочка.

«Няхай нас бог з'яднае»...
Малюся і праду...
Ці песеньку вяду,
Ці плачу — хто пазнае?



Ты прыходзь, пакуль не сплю,
Я дзвярэй не зашчаплю,
Толькі ўвойдзеш — прытулю,
Зацалую, залюблю.

Міма мамы прашмыгні,
Не чыхні, не кашляні,
За сабой без валтузні
Дзверы ціха прычыні.

Сучцы хвост не адтапчы,
Гусь шчыкне — не закрычы,
Ласкай прабяжы ўначы,
Як блыха ў цяпло, скачы.

Ды не загрымі вядром,
Небяспечны гэты гром,
Тарарам на цэлы дом
Не канчаецца дабром.

Знай: на лесвіцы пасе
Пастка — сходкі там не ўсе,
Ступіш міма — панясе,
Кіне-рыне, растрасе.

Боты зашчамі ў зубах.
Няньку ўбачыш: ботам «ш-шах!»,
Апануе дзеўку жах,
Д'ябал стане у вачах.

Не дай бог табе ступіць
Там, дзе парабак наш спіць.
Ох, і майстра ж ён лупіць,
У яго папросіш піць.

Не залезь пад дах, дзе брат
Галубоў трымае шмат.
Брат у нас таксама хват,
Біты скоцішся назад.

Да маіх дзвярэй бяжы,
Пра пакуты раскажы.
Крыкну я: «Зладзей! Чужы!»
Гвалту будзе — без мяжы!

Тут прачнуцца сваякі,
Нянька, маці, брат, дзядзькі,
Замільгаюць кулакі,
Не палічыш сінякі.

Ды не так усё пайшло...
Дзевяць месяцаў сплыло...
Маці плача: «А было
Не пускаць блыху ў цяпло...»

# ВЫЗВАЛЕННЕ

Пайшоў у свет юнак набожны,
Быў бедны — а любіць умеў.
Запеў пра шчасце — свет трывожны
Не зразумеў, пра што ён пеў.

«Жыццё павінна мне паддацца!»
Ён песню жорстка задушыў
І ў незнаёмы лес падацца,
Каб зёлкі там збіраць, рашыў.

Па цёмнай пушчы без сцяжынкі
Блукаў ён, ногі ў кроў збіваў.
Ён дзеля чэрствае скарынкі
Букет крывавы прадаваў.

У лесе днюе і начуе...
Ды раптам гукі ловіць ён:
У дзікай песні вуха чуе
Балючы металёвы звон.

Праз дзікі зараснік ён рвецца
На дзіва зблізку паглядзець.
Атрутны куст стаіць, а вецце
Адзета ў золата і медзь.

Ён струны ціхія кранае,
Пяе, а ў песні боль і жах.
Ён бачыць птушку і не знае,
Што гэта за стракаты птах.

Стракатым крыллем непрыгожа
Махае, стомлена глядзіць.
Ляцець не можа, пець не можа,
Атручана ў кусце сядзіць.

Юнак, бядой такой крануты,
Душой імкнецца да яе.
А птушка чуе праз пакуты,
Як жаласліва ён пяе.

Звініць лістота металёва
І глушыць ціхі спеў хлапца.
Але ён паўтарае словы,
Каханню верны да канца.

Няма канца ягоным гімнам —
Каханню, радасці, вясне,
Гарам і сонечным далінам,
Абдымкам у чароўным сне.

І птушка крылямі ўжо водзіць,
Глядзіць на хлопца, што пяе.
Юнак жа бліжай падыходзіць —
Любоў адвагі надае.

Атрутнае ламае вецце,
Крывяняць рукі, хоць крычы.
«Я вызвалю цябе ад смерці!»
Яна ж: «Мне ўжо не памагчы...»

На рукі падае нясмела.
Ён распраўляе ёй крыло.
Адагравае сваім целам,
Выносіць з ценю на святло.

Нясе у горы, дзе бязмежжа,
Дзе сінь нябёс на ўсе бакі,
Дзе вецер вольны, водар свежы —
Для радасці абсяг такі.

І ў радасці блішчаць стракатa,
Як промні шчасця, два крылы.
Спявае птушка, і багатым
Зрабіўся ўжо бядак былы.

Хоць вабіць сіняе прадонне —
Яна не здрадзіць, як і ён.
Яна ў кахання у палоне,
І любы ёй такі палон.

Як той юнак, люблю адну я,
Пяю ёй, поўны пачуцця.
Даверся, птушачка, вярну я
Цябе да новага жыцця.



Дабранач, Рэйн бурлівы,
Мой верны друг стары!
Плыві, бяжы імкліва
У водблісках зары.
Заснуў сусвет салодка,
Пасецца хмар чародка
І Воз скубе.

Рыбак у лодцы сонны —
Пра мора мроіць ён,
А ты ўсю ноч нястомны
Люляеш гэты сон.
Ты нестрыманай птушкай
Ноч сумную разгушкаў
І ажывіў.

Ты вучыш быць вясёлым,
Танцуеш і пяеш.
Даеш ты сілу кволым,
Галодным хлеб даеш.
Ты знаеш бляск палацаў,
І пот гарачай працы,
І хмель віна.

Бывае, плакаць вучыць
Плынь хуткая ракі.
Заручаных разлучыць
І разнясе ў бакі.
Відаць, іх бог карае...
А рэха паўтарае
Гаротны плач.

Таго-сяго маліцца
Навучыць бераг твой.
Хто бога не баіцца —
У продань галавой.
Віры ахвяры прагнуць,
На дно яго зацягнуць —
Маліся там.

Я ж — вучань твой — спяваю,
Ледзь блізка падыду,
Я радасць адчуваю,
Забуду пра бяду.
Скрыпяць у млыне жорны,
І дах свіціцца зорны.
Пад ім засну.

Алмазамі на донцы
Рэйн можа асляпіць.
Пакуль не ўзыдзе сонца,
Ён жорнамі скрыпіць.
Любові не хаваю,
Табе, мой Рэйн, спяваю,
Складаю гімн.

Вянок, дарунак лета,
Я ў плынь тваю шпурнуў.
Нясі яго да мэты,
Дзе белы дзень заснуў.
Вось так цябе вянчаю
Са славай, сам канчаю
Вячэрні спеў.



Я падаўся ў свет далёкі
Цераз горы і бары.
Неба парасон шырокі
Нада мной плыве ўгары.

Там, на ўзлеску, дзе грымотны
Вадаспад шалее, я
Заначую і — самотны —
Буду слухаць салаўя.

Вечаровай калыханкай
Зачаруе сэрца ён,
І душу маю да ранку
Запалоніць мройны сон.

Зноў пачую: дзесьці льецца
Песня шчасця і нуды.
Зноў адчую: сэрца б'ецца,
Як і ў даўнія гады.

І са дна ракі, што з горкі
Мкнецца, шэпчацца з травой,
Зноў мяне вітаюць зоркі,
Быццам ім я блізкі, свой.

Рэха панясе на волю
Праз лясы і праз палі
Песню радасці і болю:
Амялея! Амялі!
І заззяе наваколле:
Амялея! Амялі!

Што хаваецца у ночы?
Што ўзыходзіць пры святле?
Астравы пяшчоты — вочы.
Твар, што асалоду шле.

Паміж месяцам і сонцам,
Нібы ў продані якой,
У чароўным сне бясконцым
Знойдзецца душы спакой.

І адчыняцца глыбіні —
Тайны вечныя зямлі.
І каханне не загіне:
Амялея! Амялі!



Шапоча мірта веццем...
Вакол паснулі ўсе.
На небе месяц свеціць,
Чароды хмар пасе.
Ён гоніць іх к зарніцы,
На зорны вадапой.
Чаму табе не спіцца?
Не бойся, я з табой.

Шапоча мірта веццем
У ззянні светлячкоў.
Галубка спела дзецям —
Прыспала галубкоў.
Мкнуць хмары да зарніцы
На зорны вадапой.
Чаму табе не спіцца?
Не бойся, я з табой.



Жывуць сабе салдаты
Прывольна і багата,
Іх дом — абсяг наўкол,
Зямля — салдацкі стол.

Пасцель — лужок мурожны,
Пяе ражок трывожны:
«Кладзіся!», «Уставай!»,
«Дзень добры!» і «Бывай!»

Салдаты з сонцам дружаць,
Наеўшыся, не тужаць,
Міргае месяц ім,
Як сябрукам сваім.

І зорачкі жартуюць,
Салдацкі сон вартуюць,
Адна адну у час
Змяняюць кожны раз.

Наш меч гуляе смела,
Зямлі належыць цела,
Душа памкнецца ў рай.
Сын, зброю забірай!

Хто ўпаў, той застаецца,
Хто ўстаў, той адаб'ецца.
Хто смелы — будзе жыць,
Нягоднік, хто збяжыць.

Адвечна, як дыханне,
Нянавісць і каханне,
Тут цот або няцот,
Нейтральны толькі чорт.

Шынкар нальле нам чарку,
Мы вып'ем за шынкарку,
П'яніць нас больш яна,
Чым горкі хмель віна.

# Я ЛЮБЛЮ ТАК ЦАЛАВАЦЦА

Мілы, пацалуй яшчэ,
Я люблю так цалавацца.
Хай мне вусны жар пячэ,
Мілы, пацалуй яшчэ,
Прыхіні мяне крапчэй,
Каб павек не адарвацца.
Мілы, пацалуй яшчэ,
Я люблю так цалавацца.

Ах, салодкая гульня!
Ці не праўда, мой салодкі?
Мала ночы, мала дня...
Ах, салодкая гульня —
Пацалунка даўжыня,
Перадыху міг кароткі.
Ах, салодкая гульня!
Ці не праўда, мой салодкі?

Я магу зацалаваць
За адзін твой дотык, мусіць.
Скора сонейку ўставаць.
Я магу зацалаваць.
Клятвы не спяшай даваць —
Вусны чуйныя не схлусяць.
Я магу зацалаваць
За адзін твой дотык, мусіць.

Пацалункаў плыткі час,
Быццам ветрык легкакрылы.
Як з'яднаў пяшчотна нас
Пацалункаў плыткі час!

А цяпер — апошні раз!
Як я плакаць буду, мілы!
Пацалункаў плыткі час,
Быццам ветрык легкакрылы.

Што ж, бывай — і хто куды.
Пацалунак — на расстанне.
Развітанне — смак бяды.
Што ж, бывай — і хто куды?
Хай жыве ў душы заўжды
Памяць нашага кахання.
Што ж, бывай — і хто куды...
Пацалунак — на расстанне.

## СТАРАЯ ПРАЧКА

Старая, валасы сівыя,
Ёй суджана, відаць, адно:
Яна бялізну рупна мые,
Хоць ёй за семдзесят даўно.
Ліла заўсёды горкі пот,
Не знала хлеба дзешавога,
Ішла пад ношкай спраў, турбот,
Як суджана было ад бога.

Дзяўчынай хлопца спадабала,
З надзеяй выйшла за яго,
Жаночай долі паспытала,
Хапіла рознага ўсяго.
Муж захварэў, хоць берагла,
Ужо й трох дзетак нарадзіла.
Яго зямельцы аддала
І ўсё ж надзеі не згубіла.

Адна малых узгадавала
І не панікла ад бяды.
Урок ім людскасці давала,
Па-людску жывучы заўжды.
І дзетак блаславіла ў шлях,
Калі яны былі на ўзлёце.
Сама ў немаладых гадах
Век дажывала ў адзіноце.

Грош да граша яна збірала,
Купіла лён і па начах
На калаўроце кужаль прала,
Аднесла ніткі да ткача,

І ён наткаў ёй палатна.
Узяўшы ножны ды іголку,
Кашулю спраўную яна
Сабе на смерць пашыла з толкам.

Яе шаноўная абнова
Асобна ў куфары лягла
Як скарб адзіны, ганаровы,
Што зарабіць за век змагла.
Кашулю тую дастае,
Каб толькі памаліцца богу,
А потым апране яе
У найапошнюю дарогу.

І я, калі зусім прыстану,
Хацеў бы ведаць, як яна,
Што келіх, мне наканаваны,
Я выпіў у жыцці да дна.
Быць жыццярадасным умець
Хацеў бы я на ўзор бабулі,
Хацеў бы з гонарам на смерць
Надзець кужэльную кашулю.

## ТАКОЕ НАШАЕ ЖЫЦЦЁ

З дзіцячай помню даўніны:
Бацькі спускалі мне штаны
І лазіною секлі.
А як да школы я дарос,
Яшчэ гарчэйшы стаў мой лёс,
Я добра цяпнуў гора.

Чытанне ані ў зуб не йдзе,
А не падзенешся нідзе,
Гарыш, як чорт у пекле.
Хутчэй бы сталым стаць хлапцом!
Вось так і рос я пад дубцом.
Далей — ізноў не лепей.

Якіх турбот я ні спазнаў,
За грош і гнуўся і стагнаў.
Нястачы дух падсеклі.
А як капейчына прыйшла,
Пад шлюб маладка павяла.
Яшчэ цяжэй прыйшлося.

Я патрапляў, я долю кляў,
Дзяцей і жонку забаўляў...
О, прастата святая!
Дзяцінства... то быў райскі сад.
Гатоў вярнуць цябе назад,
Лазіна залатая.

# МАЛІТВА ЎДАВЫ

**Паводле Марціна Лютэра**

Бабулька бедная адна
Малітву шэпча давідна:
«Зрабі так, літасцівы бог,
Каб пан мой жыць бясконца мог.
Бяда маліцца вучыць».

А пан падслухаў з-за вугла,
Падумаў: пэўна, падпіла.
У хатку да яе ідзе
І хітра роспыты вядзе:
«Бяда маліцца вучыць?»

«Наш пан — твой дзед — смактаў з нас кроў,
Забраў адну з васьмі кароў,
Найлепшую павёў з хлява,
Мой лёс яму быў трын-трава.
Бяда маліцца вучыць.

Я неразумная была,
Старога, мусіць, пракляла.
Памёр. Твой бацька малады
Звёў двух кароў з двара тады.
Бяда маліцца вучыць.

Я пана пракляла таго —
Забрала смерцейка яго.
Цяпер, мой пан, рашылі Вы
Узяць чатыры галавы.
Бяда маліцца вучыць.

Баюся Вашага сынка —
Пакіне ён без малака...
Зрабі ж так, літасцівы бог,
Каб пан мой жыць бясконца мог.
Бяда маліцца вучыць».

## КРЫНІЧКА

Там, пад ліпамі — крынічка,
Пырскі мёдам аддаюць.
А каб вы хоць раз пачулі,
Як там салаўі пяюць!

Раз пайшла туды дзяўчына
З вёдрамі — набраць вады.
Ля крынічкі ёй сустрэўся
Хлопец гожы, малады.

Крышачку пагаманілі...
Цёмна, а дачкі няма.
Мама, мамачка, даруй мне,
Выпраўляла ж ты сама.

Я туды дабегла лёгка,
З поўным — ногі прыстаюць.
Мамачка, а каб ты чула,
Як там салаўі пяюць.

## ПАЛЯЎНІЧЫ І ПАСТУШКА

Пастушка, я заблудзіўся,
Мне нанач патрэбны кут.
Пабег я за сарнай праз горы
І апынуўся тут.

Мне край гэты незнаёмы,
Не ведаю гор ані.
Прашу цябе: перад ноччу
Дзверы мне адамкні.

Не адамкну, паляўнічы,—
Адна я і ўся дрыжу.
Хацінка мая малая.
Дзе я цябе палажу?

Я толькі прысяду ля печкі,
Пасцелі не трэба мне.
Адразу пайду, як толькі
Чырвань усход кране.

Калі адчыню табе я,
Са мной не ўчыні бяды.
Пойдуць размовы ды плёткі...
Што скажа мой бацька тады?

Ніхто мяне тут не пачуе,
Я слова табе даю.
І аніколькі не бойся
Ты за прыстойнасць маю.

Калі ты сябе, паляўнічы,
Паводзіць будзеш як след,

Тады цябе ў хатку пушчу я,
Бо цемра ж накрыла ўвесь свет.

Яна адчыніла дзверы
І зачыніла за ім.
Здалося, агонь заўсміхаўся
Начлежнікам тым двоім.

Адзін аднаго паспелі
Вачыма яны павітаць.
Імгненна ноч праляцела —
І ўжо пачало світаць.

І як я цябе пусціла,
Да розуму не дабяру.
На ўсходзе зара чырванее,
Ад сораму я гару.

Ах, міленькі паляўнічы,
Як ночанька хутка прайшла.
Ты мусіш мяне пакінуць
Да ранішняга святла.

Я хутка цябе пакіну,
Ды стала мне любаю ты.
Не трэба, каханая, плакаць.
Пярсцёнак вазьмі залаты.

А там, у далёкай даліне,
Мой дом — як у казцы ці ў сне.
Там нівы, і горы, і сарны,
Якія належаць мне.

І я там жыву не бедна.
Таму да халоднай зімы,
Мілая, справім з табою
Вяселле шыкоўнае мы...

# ВЫПРАБАВАННЕ

Паводле народнай песні

Люляе ліпу вецер,
Гуляе з лістотай і веццем,
　　　　Разносіць мядовы пах.
Пад ліпай шэпчацца пара,
　　　　Глыбока ўздыхае: «Ах!»

«Каханая! Да спаткання!
На сем гадоў развітанне.
　　　　Час у разлуцы — даўгі.
Пабачым, калі прыеду,
　　　　Ці не з'явіўся другі».

«Ах, што ты! Седзячы ў хаце,
Буду сем год я чакаці,
　　　　Расстанне перацярплю.
Павер мне, павер мне, любы,
　　　Я іншага не палюблю».

Час пралятае без стомы.
Год пяты, і шосты, і сёмы,
　　　　І восьмы ідзе па зямлі —
Пачаўся чацвёрты месяц,
　　　　Чацвёртыя суткі пайшлі.

Зноў ліпу люляе вецер,
Гуляе аголеным веццем,
　　　　Разносіць лістоту ў бакі.
Пад ліпай сцякаюць долу
　　　　Слёзы, як ручайкі.

«Скажы яму, ліпа: калісьці
Тваё зелянела лісце —
Сарвала іх восень, змяла.
Я плакала і чакала,
Чакаючы, слёзы ліла».

Тут — верхавы з-за пагорка
Звярнуў да яе падворка,
Горда зірнуў праз плячо.
«Хай бог цябе пашкадуе,
Чаму горка плачаш, дзяўчо?»

«Гады праляцелі без стомы,
Мне любага лёс невядомы.
Хоць ліпу спытайце маю,
Як слёзы чацвёрты месяц,
Чацвёртыя суткі лію».

«Ды ён з цябе пасмяяўся,
Ён з прыгажэйшай спазнаўся,
Ён здрадзіў табе даўно.
Я сам пад зялёнай ліпай
Вясельнае піў віно».

«Няхай ён з мяне пасмяяўся,
Няхай ён мяне адцураўся —
Дапамажы яму бог.
За любага буду маліцца,
Пакуль не звалюся з ног».

Загадкава падміргнуў ён,
Бліскучае штосьці сцягнуў ён
З пальца, схіліўся з сядла,
І залаты пярсцёнак
Слязьмі яна абліла.

Хлопец з каня саскочыў,
Зірнуў у дзявочыя вочы,
Хусціначку ёй паднёс.
«Вытры хутчэй свае слёзы!
Хапіла, хапіла слёз.

Цябе я рашыў праверыць:
Калі б перастала ты верыць,
Тут не застаўся б я.
У гэтым я богу пакляўся.
Ну, а цяпер ты — мая».

І зноў вечаровы вецер
Гуляе ў ліпавым веццем,
Варушыцца цень, нібы птах.
Пад ліпай шэпчацца пара,
Шчасліва ўздыхае: «Ах!»

# ЖАБРАК І ЯГО САБАКА

«Тры талеры штрафу зараз палажыць?
За што? За сабаку? Лепей не жыць.
Паліцыя скуру з жывога дзярэ,
І д'ябал яе не забярэ!

Трымаецца ледзьве ў целе душа,
Не зарабляю нідзе ні граша,
Жыву, як гавораць, на голай вадзе,
У голадзе, холадзе, у бядзе.

Калі я збяднеў, захварэў, занямог,
Хто тады выжыць мне дапамог?
Хто не пакінуў мяне аднаго
У хвілю цяжкую, як брата свайго?

Хто палюбіў мяне, пашкадаваў?
Хто мяне целам сваім саграваў?
Хто быў са мной у галодныя дні
І сам галадаў і не енчыў ані?

Бачны жыцця ужо нашага край...
Бывай жа, сабака, мой сябра, бывай.
Ты гэткі ж стары і нямоглы, як я.
Цябе [redacted] ўтаплю. Вось падзяка мая.

Падзяка, адплата — служыў не за так.
Жыццё наша, браце,— пацёрты пятак.
Ах, д'ябал! Бывала, што я ваяваў,
Ды катам ніколі яшчэ не бываў.

Я камень вазьму і прыладжу пятлю,
У віры глыбокім цябе я ўтаплю.
Ну, што так, сабака, глядзіш на мяне?
Нагой падштурхну — і ты будзеш на дне».

Сабакаву шыю пятлёй абвязаў,
Вільнуў той хвастом і руку аблізаў.
Тады ён вяроўку з сабакі сарваў —
На ўласную шыю прымайстраваў.

І выгукнуў штосьці страшэннае ён,
Уклаўшы апошнія сілы ў праклён,
І кінуўся ў вір ён уніз галавой,
Схаваўся у хвалях пад пенай сівой.

Сабака ж памкнуўся яго ратаваць,
Выючы, стаў ён людзей сазываць,
Тузаў, цягнуў, каб шукалі ішлі.
Яны жабрака нежывога знайшлі.

І быў пахаваны ён бедна, як жыў.
Сабака ішоў за труною і выў.
А потым на свежай магіле ён лёг,
Выцягнуў лапы, заплакаў і здох.

## ПЕРАД СМЕРЦЮ

Звіняць хаўтурныя званы,
Пра смерць чыюсь гудуць яны,
Пра незваротныя шляхі...
Хай бог даруе нам грахі.

Ірве ў адчаі валасы
Жанчына казачнай красы,
Аплаквае грахі свае
І перад смерцю ў грудзі б'е.

А муж каля дзвярэй стаіць,
Не хоча жорсткасці таіць.
Кабета ж кленчыць перад ім
І каецца ў граху сваім.

«О божа, я сябе кляну,
Даруй мне, любы мой, віну.
Не ведаю, як я змагла,
Ды вернасць я не зберагла».

«Хай будзе за давер — давер.
Пра здраду знаю я цяпер.
Дык знай і ты: я адплаціў
Тым, што цябе я атруціў».

# НОВЫ ДЫЯГЕН

Натоўп гудзе і націскае
Плячмі — адзін да аднаго.
Сцякае густа плынь людская
У цэнтры з Ам'ена з усяго.
Прыехаў усясільны цар!
Сустрэча — з песнямі, ігрою.
Нанесен ворагу удар!
Цар дзякуе цяпер героям.

Адзіны толькі не святкуе:
Каменячос — сам па сабе —
Зубілам глыбіну цяжкую
Пад постук малатка дзяўбе.
А вуліца, нібы ручэй...
Ён не зважае, ён працуе,
Не бачыць, як няма вачэй,
І, як няма вушэй,— не чуе.

А цар здалёку заўважае
Яго імклівы спрыт рукі.
Каня рашуча набліжае.
Цара не бачыць — хто такі?
Пад'ехаўшы, спытаўся цар:
«Што робіш ты?» — «Чашу камені»,—
Той адказаў, узняўшы твар.
Твар быў знаёмы без сумнення.

«Я помню, як на полі бою
Ты біў, сяржант, варожы строй.
Ты кінуў службу — што з табою?
Жывеш, відаць, не як герой...»

«Я абавязак свой заўжды,
О, цар, выконваў няўхільна.
Я адслужыў свае гады.
Цяпер я чалавек цывільны».

«Шкада, як войска пакідае,
Хто мужна біўся на вайне.
Прасі, чаго душа жадае —
Цар міласцю не абміне».
«Не ведаю, што і казаць...
Я ем і п'ю з уласнай працы.
Дазволь мне камень мой часаць
І з міласцю тваёй не знацца».

# КАРСІКАНСКАЯ ГАСЦІННАСЦЬ

Маланкі крыжуюць падворак начны,
І лівень ліе, і грымяць перуны,
І вецер магутны у дрэвах гудзе,
І гул ад бурлівай рэчкі ідзе.

А Рока стары, пануры, як змрок,
У цемень глядзіць, напружвае зрок,
Стаіць ля акна, як чакае каго,
Што грымне — уздрыгвае постаць яго.

«Ён прыйдзе — крывавы вястун — да мяне...
Хто гэта? Джузэпе, брацельнік мой? Не...
Марудліва вельмі цягнецца час.
А ночка для нашай задумы — якраз.

Ты, Пола, сваю галаву нам нясеш,
Не спіць наша помста, сябе ты не цеш.
На нашу зямлю рызыкнуў ты ступіць
І хутка адчуеш, што помста не спіць.

Не перайсці табе цераз раку.
Маланка імгненна падсвеціць стралку.
Мы ганьбу адмыем тваёю крывёй.
Не ўпусціць засада здабычы сваёй».

Тут стукнулі дзверы — уздрыгнуў стары.
Хто там блукае да гэткай пары?
«Ты, Пола? — пазнаў, як пайшоў
адчыняць.—
Што табе трэба?» — «Заначаваць.

Страшэнная ночка, дарог не знайсці,
Баюся на хлопцаў тваіх набрысці».
«Падзякаваць мушу: аб доме маім
Ты добра падумаў, будзь госцем у ім».

Вядзе да жанчын у святліцу з цямна
І кажа, каб хлеба прынеслі, віна.
Хоць стрымана госця вітаюць усе,
Ды гаспадыня вячэру нясе.

Вось Пола сагрэўся, як след закусіў,
І Рока падняўся, ісці запрасіў,
Праводзіў наверх і сказаў: «У мяне
Ты спі без трывогі, ніхто не кране».

Прачнуўся, як толькі заззяла зара,
Пола ад голасу гаспадара:
«Хутчэй уставай! Я правяду,
Каб не натрапіў дзе на бяду».

Даўшы паснедаць, вядзе гаспадар
Яго паўз даліны, праз цёмны гушчар,
Ля продані чорнай, праз бурны ручэй
На роўнае месца, дзе крочыць лягчэй.

«Бывай жа. Ты бачыш, што я не забыў
Закон карсіканцаў. Ты б тое ж зрабіў.
Прачнулася помста і больш не засне.
Цяпер сцеражыся, Пола, мяне».

## СЯЛЯНСКАЕ ПРАВІЛА

Старайся ўлетку на жніве
Нявесту выглядаць,
Пакуль не сталі дні ўбываць,
А ночы — халадаць.

Жаніся ўвосень, каб зімой
Салодкі мёд цадзіць.
Тады праз гурбы і ў мароз
Не прыйдзецца хадзіць.

# САМО ПРЫЙШЛО

Як вечар — не сядзіцца мне,
На луг кірую крок.
Не праміне яна — зірне
З альтанкі незнарок.
Між намі й слоўца не было,
Ды штось само, відаць, прыйшло.

Не ведаю, калі і як
Пацалаваў яе.
Ці добра так? Дзяўчына знак
Аб тым не падае.
Абодвум міг салодкі люб,
На вечнасць згодна еднасць ґуб.

Бутон цалуючы, пчала
«Кахаю» не крычыць.
І ружа, што нектар дала,
Пра пачуццё маўчыць.
Вось так кахаемся і мы:
Яна маўчыць, і я нямы.

## КАВАЛЬ

Я чую: куе
Мой мілы падковы
І постук сталёвы
Лунае над вёскай,
Ляціць пагалоскай,
Звініць і пяе.

Убачу здаля:
Стараецца спорна
Каханы ля горна.
А іскры шугаюць,
Кваціста мільгаюць
Вакол каваля.

# ЗІМОВАЯ ПЕСНЯ ПАСТУХА

О злосная вядзьмарка,
О мачаха-зіма!
Ты нас усіх у хаты гоніш,
А там прасторы нам няма.

Пакрочу міма хаты,
Цень мільгане ў акне.
Ці гляне з-за фіранкі
Тайком дзяўчына на мяне?

Набраўшыся адвагі,
На ганак рызыкну звярнуць.
Сядзіць дзяўчына з бацькам, маткай,
Баіцца на мяне зірнуць.

О лета! Рай бяскрайні
Без вокан і дзвярэй.
Чым вышай на гару ступаеш,
Тым далягляд шырэй.

Ты станеш на вяршыні,
Я закрычу: «Мая! Мая!»
І рэха сто разоў паўторыць
Табе адной, што крыкнуў я.

Цябе ў захмарнай высі
Я прытулю як след.
Ніхто нас там не ўбачыць,
А нам адкрыты цэлы свет!

## ПАРАБАК

Пайшоў бы вандраваць я,
Ды праца ў панскім доме
Прадыху не дае.

Бяру ваду з крыніцы
Увечары і ўранку —
Не вычарпаць яе.

Нашу да печы дровы
Увечары і ўранку —
Агню іх не стае.

## РАЗВІТАННЕ

«І вось прыйшло расстанне,
Каханы, мілы мой!
О, як на развітанне
Цалуемся з табой!»

«Не веру я ў расстанне —
Цябе бліжэй тулю.
Не будзе развітання,
Раз шэпчаш мне «люблю».

## РАНІШНЯЯ ПЕСНЯ

Яшчэ пануюць змрок і сон,
Яшчэ маўчыць царкоўны звон,
Зязюля не кувае.

Яшчэ у лесе — цішыня,
Дзе сонна ціўкне птушаня,
Гушчар той гук схавае.

А я ўжо між палёў брыду
І гэту песню на хаду
Складаю і спяваю.

# ЗІМОВАЯ ВАНДРОЎКА

Гуляе колкі вецер,
Мароз скаваў ваду.
У апусцелым свеце
Адзін іду-брыду.

Згушчаецца змярканне,
Хоць сонца не зайшло.
Дзе ты, маё каханне?
Нібы і не было...

Па лесе парадзелым
Да вёсачкі спяшу.
Там акрыяю целам.
Як адагрэць душу?

## ПРЫТУЛАК

Люблю я гэты дом лясны,
Дзе я гашчу нярэдка.
Тут шыльда — яблыкналіўны
І лугавая кветка.

Мяне прыняў зялёны дом
У цішыню густую,
Ядою смачнай і пітвом
Тут гаспадар частуе.

Сюды наведнікі прыйшлі
Вясёлыя, як з хмелю.
Скакалі, елі і пілі
І адмыслова пелі.

Мяне салодкі сон зморыў
Каля капны, на сене,
І гаспадар мяне накрыў
Сваім уласным ценем.

Чым адплаціць гаспадару?
Злуецца сад зялёны.
Будзь благаславёны, гавару,
Ад каранёў да кроны.

## ВЯРТАННЕ

Кіёк мой, не збівай мне крок,
Скала, не зрынься незнарок,
Нябёсы, не ўпадзіце на зямлю —
Бягу да той, каго люблю.

## БЕЛЫ АЛЕНЬ

У пушчу выйшлі трое паляваць,
Каб белага аленя ўпільнаваць.

Пад елкай шумлівай прылеглі яны,
Прысніліся хлопцам дзівосныя сны.

Першы:
Прысніўся мне пошум, загадкавы рух,
Алень з-за куста вылятае: шу-шух!

Другі:
Сабакі брахалі, наводзячы жах,
І тут я зладжыўся і стрэліў: ба-бах!

Трэці:
Зваліўся на дол ён у тую ж пару,
Зайграў я ў ражок пераможна: тру-ру!

Вось так у цяньку размаўлялі ўтраіх,
Алень жа імкліва прабег каля іх.

Мільгнуў прыгажун праз лугі і палі —
Ускочыць яны не паспелі з зямлі.

Шу-шух! Ба-бах! Тру-ру!

# ВЕРУ Ў ВЯСНУ

Заспаны ветрык устае,
Як павучок, вясну снуе,
Абмацаў дрэвы, сцены.
О, цёплы подых! Спеў вясны!
Адрынь, душа, ліхія сны!
Бо прыйдуць, прыйдуць перамены.

Свет прыгажэе з кожным днём,
Шугае кветкавым агнём,
Іскрыцца — белапенны.
Што новы дзень нам прынясе?
Душа, забудзь пакуты ўсе!
Бо прыйдуць перамены.

# ВЯСНОЙ

Калі зямля ўся ў ледзяных аковах
Пад гурбамі завейнымі мярцвела,
Душа мая забыцца не хацела
Пяшчотнай цеплыні дзянькоў маёвых.

І ў той уяўнай квецені вясновай
Спазнаць каханне палкае карцела.
Венерына спакуслівае цела
Штоночы снілася ў выявах новых.

Прыйшла вясна на родныя абшары.
Як зіхацяць багатыя уборы!
А дзе ж каханне, пра якое марыў?

Ва ўсёй красе, у квецені і сіні,
Ва ўсёй празрыстай, як крышталь, прасторы
Я бачу толькі неба — без святыняў.

# ПЕСНЯРОВА ПРАКЛЯЦЦЕ

Паміж зямель багатых у даўнія часы
Стаяў палац высокі нябачанай красы.
Вакол сады і кветкі пахучыя раслі,
Фантаны білі ў неба, вясёлкамі цвілі.

Там горда-ваяўніча тыран-кароль сядзеў,
З пагардліваю злосцю на белы свет глядзеў.
І ўсходзіла там гора, кусцілася бяда,
Людская кроў і слёзы ліліся як вада.

Вось да палаца неяк прыйшлі два песняры,
Адзін — юнак русявы, другі — сівы стары.
Старога — ён быў з арфай — нёс у сядле
гняды,
Бадзёра крочыў побач таварыш малады.

Стары схіліўся к хлопцу: «Ну што, сынок,
прыціх?
Рыхтуйся — заспяваем найлепшую з усіх.
У ёй раскажам шчыра пра радасць і пра боль,
Ці не адтане сэрцам бязлітасны кароль?»

«Ідзіце у святліцу!» — далі загад дваім.
Кароль сядзеў на троне, і жонка — побач з ім.
На ім убор чырвоны гарэў як палкі жар,
Круглявы, нібы поўня, быў каралевін твар.

Стары зайграў на арфе, чароўна так зайграў.
Нястрымна — болей, болей — гук сілу набіраў.
Юнак запеў пяшчотна, як ручаёк між гор,
І грымнуў голас дзедаў, нібы шматлюдны хор.

Запелі пра каханне, пра радасці жыцця,
Пра волю, гонар, годнасць і святасць пачуцця,
Пра тое, што хвалюе, з чаго душа пяе,
Пра тое, што ўзвышае і сілы надае.

Прыдворны люд сумеўся — прыціхлі кпіны,
злосць,
Харобрыя ваякі набожна шэпчуць штось.
Крануць і каралеву спеў незвычайны змог —
Зрывае ружу з плацця, кідае ім да ног.

«Што стала з каралевай! Заблыталі людзей!» —
Ад злосці ўвесь трасецца шалёны ліхадзей.
Хапае меч бліпічасты, б'е ў грудзі юнака,
З-пад сэрца выцякае крывавая рака.

Усе пабеглі прочкі, як смерч іх разагнаў,
А на руках ў старога паранены сканаў.
Дзед хлопца ў плашч укутаў, прыладзіў
рамяні —
Правязаны паехаў нябожчык на кані.

Але каля варотаў стары каня спыніў,
Узяў у рукі арфу, якую так цаніў.
З размаху аб калону на трэсачкі разбіў,
І крык яго пачуўся, які жахлівы быў.

«Кляну! Каб гэтым сценам — ні сонца, ні вясны,
Каб музыкі і спеваў не ведалі яны!
Каб толькі стогн і слёзы тут чуліся заўжды,
Каб бура ўсё разбіла і замяла сляды!

Кляну! Каб сад цяністы прытулку не даваў,
Каб гэты твар хлапечы у сне вам паўставаў!
Каб высахлі крыніцы і ўсё пайшло агнём,
Каб смяглі вы ў пустыні бясконцым летнім днём!

Кляну цябе, забойца! Ты — вораг песняроў!
На ўсім тваім багацці, на славе чорнай —
кроў...
Дык будзь навек забыты, у змроку патані,
Ніхто не пашкадуе, што ты сканаў — ані...»

Пачула, мусіць, неба, пра што крычаў стары,
I сталі пылам, друзам магутныя муры.
Калона засталася ад усяго — адна.
Але, здаецца, заўтра паваліцца яна.

Цяпер наўкол пустыня бязлюдная маўчыць,
Не зелянеюць дрэвы, крыніца не цурчыць.
Даўно забыты ў свеце мясцовы уладар.
Нібы зваліўся ў прорву. Вось так пракляў
пясняр.

## СЕМ БРАТОЎ-ГУЛЯКАЎ

У нашай вёсцы прыжыліся
Браты са звычкай наліваць.
Усе сямёра пакляліся
Якоесь слова не ўжываць.
Ні ў шчасці, ні з ліха,
Ні гучна, ні ціха.

Ніводзін ад яго не плакаў,
З ім не заручана бяда.
Чаму ж адпуджвала гулякаў
Слаўцо празрыстае — вада?
Паслухайце, людзі,
Казанне аб цудзе.

Аднойчы расказаў героям
П'яны замурзаны панок,
Што дзесьці ў лесе пад гарою
Заўжды адчынены шынок.
Віно там ліецца,
Дарма падаецца.

Паспавядацца, памаліцца
Браты не рупныя былі.
На дармаўшчынку пахмяліцца
Ахвотна ў час любы ішлі.
«Браты! Не гаруем.
У лес павандруем».

Імкліва караце́лі цені,
І неўзабаве прыпякло.

Прысох язык да паднябення,
Па тварах ручаём цякло.
Тут бачаць: бруіцца
З-пад скалы крыніца.

Пілі, пілі... да наталення...
Ды толькі смагу залілі,
Адчулі незадавальненне,
Бо не віно — ваду пілі.
«Вось гэта частунак!
Мярзотны гатунак!»

Іх сцежкі павялі крутыя,
Між дрэў губляліся сляды.
Прыйшлі у зараслі густыя —
І ні туды і ні сюды.
У лесе блукаюць,
Бурчаць, наракаюць.

Тым часам чорная навала
Паспела сонца засланіць.
Усё вакол забушавала,
Маланка ззяе, гром грыміць.
І з неба, здалося,
Ракой палілося.

Імгненна лес увесь заліты
Быў ручаямі з блізкіх гор.
Хоць галасі ты, хоць заві ты —
Вакол гудзе магутны хор.
Вось гэта хрышчэнне!
Грахоў адпушчэнне!

Здаўна ператварала казка
Людзей у рэкі, што плылі.

Цяпер гулякі, калі ласка,
Стан ледзь не вадкі набылі.
Вада з іх сцякае,
Як рэчка якая.

Яны ўзмакрэлі, узапрэлі,
Дадому ціха пабрылі.
Шынок жа так і не сустрэлі,
Дзе б выпіць задарма змаглі.
Зноў бачаць: бруіцца
З-пад скалы крыніца.

Яе струменьчыкі спявалі:
«Што, неразумныя браты?
Вада, якую зганьбавалі,
Ці надала вам пекнаты?
Хоць міла не міла —
Адмыла без мыла».

Вось так вадзіцы напіліся
Сямёра звыклых наліваць.
I слова гэта пакляліся
Больш аніколі не ўжываць.
Ні ў шчасці, ні [illegible] ліха,
Ні гучна, ні ціха.

# ЖНЕЙКА

«Дзень добры, Марыя! Так рана з пасцелі ўжо
ўстала?
Цябе, працавітую жнейку, каханне не сапсавала.
Паслухай: сажнеш за тры дні наша жытняе поле —
Адзінаму сыну з табою ажаніцца дазволю».

Дзяўчына-сялянка ад радасці заўздыхала,
Бо панскага сына душою яна пакахала.
І новая сіла ўлілася ў дзявочае цела,
Як быццам на крылах на ніву яна паляцела.

У поўдзень спякотны бягуць усе на перапынак —
Вадзіцы напіцца, прылегчы у цень на спачынак.
Адны толькі пчолкі шчыруюць у спёку нястомна,
А з імі Марыя, хоць хутка ўжо зробіцца цёмна.

Вось сонца садзіцца, званы да вячэрні склікаюць,
Дарэмна суседзі Марыю дадому гукаюць.
Прайшоў ужо статак, маўчыць пастухова жалейка,
Адна засталася нястомна-упартая жнейка.

Раса асядае, і месяц між зор выплывае...
Як пахнуць зярняты! Як звонка салоўка спявае!
А слухаць няма калі, часу няма прыпыніцца...
Спяшайся, сярпок, бо нам нельга з табою
спазніцца!

Ад ранку да ночы, ад вечара і да світання
Працуе ў надзеі, яе падганяе каханне.
Тры дні і тры ночы! Нарэшце да краю дажала!
Ад шчасця знямела, заплакала і задрыжала.

«Дзень добры, Марыя! Як ты завіхалася — бачу.
Не бойся, не бойся... За ўсё так, як трэба, аддзячу.
Наконт жа вяселля... дык гэта былі толькі жарты...
Каханне — каханнем, а быць легкавернай — не варта...»

Ён з тым і падаўся, цвярозы, разумны і строгі,
А ў беднай Марыі з таго падкасіліся ногі.
Прытомнасць згубіла, ні слова ў адказ не сказала,
Звалілася там, дзе снапочкі старанна вязала.

Яна пражыла яшчэ доўгія горкія годы,
А ела, як пчолка,— штодзень толькі кропельку мёду.
Прасіла: «Памру — пахавайце на жытняй палосцы»,
Кахання такога не ведалі болей у вёсцы.

# 18 КАСТРЫЧНІКА 1816 Г.*

Каб сёння дух да нас спусціўся,
Той, хто пясняр быў і герой,
Той, хто ў свяшчэннай бітве біўся
І там ахвяраваў сабой,—
Ён немцам, пэўна, заспяваў бы
Так рэзка, як ён біў мячом,
І я сваё пяро адклаў бы,
Каб стаць той песні слухачом.

Пра святы чулі мы багата,
Пра карнавалы і агні.
А хоць адзін пра гэта свята
Ці знае праўду ў нашы дні?
Відаць, павінны духі тыя
Між нас з'явіцца на зямлі,
Каб раны іхнія святыя
Рукой памацаць вы змаглі.

Князі! Ці помніце, калі вы,
Ад страху дрыгнуўшы душой,
Без бою ўкленчылі лісліва
Перад уладаю чужой?
З нявернасці, з ганебнай славы
Народы вас тады ўзнялі.
Бярыцеся ж цяпер за справу,
Каб спраўдзіць словы, што далі.

---

* Дзень 18 кастрычніка быў абвешчаны Днём бітвы народаў пад Лейпцыгам (16 — 19 кастрычніка 1813 г.).

А вам, пакутныя народы,
Ці ў памяці крывавы дзень?
Вы дбалі пра святло свабоды,
Чаму ж ізноў пануе цень?
Вы орды білі ў ратным полі.
Чаму ж у гэтай барацьбе
Не здабылі жаданай волі
І раўнапраўя для сябе?

Вы, мудрацы, няўжо не чулі —
Дык [illegible] вам зараз прапяю,—
Як «чорны» люд ішоў пад кулі,
Ліў за Радзіму кроў сваю?
Ці вам здаецца: час з вуголля,
Як Фенікс, паўстае — жывы,
Каб гады вылезлі на волю
З тых яек, што нанеслі вы?

А вы, прыдворныя героі!
І зоркі на грудзях у вас!
Быў Лейпцыг? Бітва? Вы пра тое
Пачулі сёння першы раз.
Дык слухайце! Вам пра падзеі
І суд гасподні раскажу.
Не хочуць слухаць багацеі —
Ні ў дух не верадь, ні ў душу.

Я праспяваў, бо меў патрэбу.
Цяпер вяртаюся назад.
Я раскажу святому небу
Пра ўсё, што мой сустрэў пагляд.
Народ не здаўся паняверцы.
Мой спеў — ні ганьба, ні хвала.
Я чуў бадзёры пастук сэрцаў,
Надзея ў позірках жыла.

# ВІНШАВАННЕ З НОВЫМ 1817-М ГОДАМ

Віншуем з думкаю адною
Цябе, народ, пад Новы год:
Няхай мінаюць старанаю
Паводкі, голад, недарод!
Хай прыйдзе хлеб духмяны ў хату,
А з ім жаданы пах віна,
Хай будзе новы год багаты
Тым, што нам дорага здаўна.

Мы шмат жаданняў нагадаем —
Ім і канчатка не відаць —
Ды лішняга не пажадаем,
Мы ведаем, што пажадаць.
Каб проста жыць, не трэба многа —
Ёсць хлеб — і можна ўжо пражыць.
Калі ж імкнецца хто да бога,
Таму патрэбна вольным быць.

## ЛЕТНІЯ ЗАВЕІ

Празрыста-лёгкія завеі
Ляцяць над нашай стараной.
І павуцінкай — пражай феі —
Ты ўжо павязана са мной.
Кахання добрая прыкмета!
Надзея ў марыве плыве.
Яе тчэ сонечнае лета,
Яе няўлоўны подых рве.

# ВІНО І ХЛЕБ

Водар поля! Сэрца рада
Сведкам быць жывой красы.
Спеюць гронкі вінаграду,
Наліліся каласы.

Малатарня загрукоча,
Пойдзе ў жорны навіна.
Сок з-пад прэса забулькоча
Песняй хмельнага віна.

Гаспадыня-чараўніца
Мне пагляд пяшчотны шле.
Золатам віно іскрыцца.
Хлеб пануе на стале.

# ЗЛАМАНЫ ПЯРСЦЁНАК

Каля старога млына,
Дзе рэчанька цякла,
Дзяўчына, як маліна,
Прыгожая жыла.

«Кахаю», гаварыла,
Цяпер сказала — «не».
Пярсцёнак, што дарыла,
Зламаўся у мяне.

Вазьму дуду, зайграю,
У белы свет пайду,
Ад краю і да краю
Хай чуюць пра бяду.

Ці на каня я ўскочу,
У бойку паімчу,
Ці ў полі цёмнай ноччу
Самотна прамаўчу.

А млын нястомна меле...
Не знаю, што рабіць.
Душы так млосна ў целе.
Памерці б і — забыць.

# РАЗВІТАННЕ

О горы, о даліны,
О шумны лес густы,
Тужлівыя ўспаміны,
Прытулак пекнаты!
Ад мітусні заклятай,
Ад здрадлівай маны
Схавай мяне пад шаты,
Зялёны дах лясны.

А новы дзень пачнецца,
Заззяе, замігціць,
Птушыны хор прачнецца
І да цябе зляціць,
Ён жахі і насланні
Прагоніць пакрысе,
Душа твая прагляне
У маладой красе!

А лес, нібы ў замове,
Мне шэпча запавет
Пра смак слязы, любові,
Пра дом, пра цэлы свет.
Я сцішыўся і слухаў,
Пра што мне лес шумеў,
Істотай, сэрцам, духам
Яго я зразумеў.

Бывай! Наканавана
Мне на чужыне жыць,
Лісточкам адарваным

Пакутліва кружыць.
Калі ў краі далёкім
Звалюся на жарству,
Прыпомню — адзінокі —
Цябе — і аджыву.

# ДВА САНЕТЫ

1

Крыніцы нараджаюцца, як дзіва,
Адны скалу з зацятай злосцю точаць,
Другія шэпчуць, сцішана сакочуць,
Русалкам штосьці прарочаць жартаўліва.

І хоць пятляюць выгінаста, крыва,
Яны ў адно злучыцца разам хочуць.
Зліюцца ў вадаспад і загрукочуць.
Вады нап'юцца і лугі і ніва.

Цячэ рака павольна, незалежна,
Мінае замкі, курганы, абшары,
Сябе нясе ў няведамыя далі.

У моры разліваецца бязмежна,
Дзе астравы заснулі ў светлай мары
І зоркі калыхаюцца на хвалі.

2

Ні мары, ні вясёлыя прыгоды —
Не тое, што паэта вылучае.
Ён піша болем, радасцю, адчаем
Праўдзіва пра жыццё-быццё народа.

Ён не пільнуе, што гаворыць мода,
Сумлення з фальшам ён не сумяшчае,
Дзе ўзнёслы пал ён людзям прысвячае,
Там у адказ — гармонія і згода.

Ён любіць маці, кім узгадаваны,
І лёс, які яму наканаваны.
Яны — аснова і аздоба твора.

Народ яго між іншым прагартае.
«Ці маеш права?» — толькі і спытае
І падтрымае — вечная апора.

## ІНТЭРМЕЦЦА

Твой вобраз незабыўны
У сэрцы я нашу.
Штодня — чароўны, дзіўны —
Ён цешыць мне душу.

Душа мая спявае,
І тая песня ўміг,
Як ніточка жывая,
Злучае нас дваіх.

## ЗАКАХАНЫ ВАНДРОЎНІК

### 1

Праз горы, праз даліны,
Вандруючы ў журбе,
Я сэрцам не пакінуў,
Каханая, цябе.

Зялёны лес ківае
Бухматай галавой,
Жаўрук звініць, спявае...
Ці гэта голас твой?

А сонейка смяецца,
Пяшчоту раздае.
Душа мая, здаецца,
І плача і пяе.

Трубою берасцянай
Пастух кароў заве.
Табой адной, жаданай,
Душа мая жыве.

### 2

Праз змрочныя вуліцы крочу,
Ад дома да дома іду,
І штосьці трывожнае точыць
Мне сэрца, як на бяду.

А міма мяне прабягае
Вясёлы натоўп — любата.
Гамоніць, смяецца, міргае,
А ў сэрцы маім — пустата.

Ці дым над страхою заўецца,
Дзе людзі шчасліва жывуць,
Ці сонейка засмяецца,
Ці воблакі паплывуць —

Нічога мяне не кранае,
Нічога не весяліць...
Каханую прыпамінаю,
І сэрца нясцерпна баліць.

3

Песенька, слязою ўмыта,
Паляці за небакрай.
Там каханую знайдзі ты,
Мой паклон ёй перадай.

Ёй — ружовай і вясёлай —
Ты скажы, што я засох.
А застанеш сумнай, кволай —
Перадай: жыву як бог.

А заўважыш: не кахае,
Уздыхні — такой бяды...
А ўсім блізкім, хто чакае,
«Ён памёр», скажы тады.

4

Ах, любка, цябе я пакінуў —
Душы закаханай дзіця —
Між злосці, зайздрасці, кпінаў,
Між горкіх іспытаў жыцця.

Ёсць людзі, што маюць імкненне
Чужую любоў руйнаваць,
А потым збіраюць каменне,
Каб шчасце сваё будаваць.

Па сцежках каля сенажаці,
Ты помніш, у лес мы ішлі.
Тых сцежак цяпер не пазнаці —
Дзядоўнікам пазараслі.

А ў небе халодным, бязмежным
Маркоціцца рой ледзяны,
І поле пад покрывам снежным
Заснула да самай вясны.

Душа мая замірае,
Па цёмных завулках іду.
Я дудку вазьму і зайграю
Пра гора сваё і нуду.

Да берага б толькі прыбіцца...
А вецер кудысьці заве.
Спі, любая, хай табе сніцца
Каханне, што вечна жыве!

5

У промнях зялёных
На ўлонні вясны
Мы — пара ўлюбёных —
Сядзелі адны.

Плыў водар салодкі
З лугоў ад ракі,
Спявалі салоўкі
І жаўрукі.

Я слухаю песні
Цяпер без цябе.
Свет ясніцца весні,
А я — у журбе.

6

За лясы плывуць аблокі —
Без граніцы, без мяжы.
Сплыць бы з імі ў край далёкі,
У няведамы, чужы.

Я ў дрымучы лес ступаю.
Нахадзіўшыся, сяджу.
Струны лёгкія чапаю,
Моўчкі ўдалячынь гляджу.

Казкі, даўнія паданні
Узрушаюць мне душу.
У пакутным хваляванні
Вершы весела пішу.

Сам з сябе дзіўлюся сёння:
Як узнёсла я співаў!
У кахання у палоне
Што за сілу адчуваў!

Як падумаю — жахліва:
Колькі год з таго прайшло.
Сэрца зойдзецца шчасліва:
А было ж яно, было...

Ветрык воблакі зганяе,
Птушкі вэрхал узнялі.
Наваколле адчыняе
Прыгажосць маёй зямлі.

З хмаркай дождж набягае,
Потым сонейка зірне.
Між прысад з гары міргае
Домік, так знаёмы мне.

Ды ў цябе душа не рвецца,
З'ехаў мілы — і дарма.
Мне ж расстанне — нож у сэрца,
Без цябе жыцця няма.

7 Зак. 1796

## ВЯРТАННЕ

Спявай, гітара, звонка,
Душа мая, іграй!
Я з дальняе старонкі
Вярнуўся ў родны край.

Мой горад пахаваны
У цемрадзі густой.
Няўклюдны, занядбаны,
Як быццам бы не той.

Любуюся фантанам,
Гамоняць капяжы.
Прахожым гараджанам
Я чалавек чужы.

Тут скрыпка заіграла,
Падзьмуў хтось у дуду,
І музыка сабрала
Танцораў грамаду.

Я ўцёк ад іх у поле.
За гарадской мяжой
Зваліўся, як ад болю,
Ад радасці чужой.

## ДЗЯЎЧЫНА

Ля акна дзяўчына стала,
Дыхаючы свежачком,
Валасы ў касу ўплятала,
Вочкі цёрла кулачком.

Пташкі раннія спявалі,
Сонца грэла сад стары,
Вольна воблакі сплывалі
За дрымучыя бары.

Пацягнуўшыся, дрымоту
Як з сябе яна зняла
І з самотнаю маркотай
Ціха песню завяла:

«Наша першае каханне
З неба птушкай прыляціць.
Ах, на сонечнае ззянне
Пырхнуць з дому так карціць!»

## ПЕСНЯ ДЗЯЎЧЫНКІ

З дзікіх гор, мая матуля,
З гушчароў лясных
Скачуць трое паляўнічых
Ды на вараных,
матуля,
Ды на вараных.

Не турбуйцеся, матуля,
Кіньце сумаваць,
Хутка тата прыйдзе з лесу,
Будзе цалаваць,
матуля,
Будзе цалаваць.

Я ж у ложку пракручуся
Ночку давідна
З боку правага на левы,
І кругом адна,
матуля,
І кругом адна.

Вырасту і выйду замуж,
Кіну сумаваць.
Ночку цэлую нястомна
Буду цалаваць,
матуля,
Буду цалаваць.

## НАЧНАЯ ПЕСНЯ

Спякотны дзень у Лету сцёк,
Царкоўны звон ляціць здалёк,
І ноч на дыбачках брыдзе,
Кагосьці ў змрок з сабой вядзе.

Куды зляцела весялосць?
Сяброў надзейнасць — дзе ты ёсць?
Забыла міла пра мяне...
Руку падасць мне хто ці не?

Свет навакольны як замёр,
І воблакі плывуць за бор.
Ледзь чутна шэпчуцца кусты.
Чаго, дзівак, затросся ты?

Хоць свет напоўнены маной,
Ёсць той, хто назаўжды са мной,
Хто ў радасці, а ці ў бядзе
Не пакідаў мяне нідзе.

Спявай жа, любы салавей,
Ты, вадаспад, звіні смялей!
Мы бога ўславім, і тады
Заззяе ранак малады!

# ДВА ТАВАРЫШЫ

Два хлопцы сабраліся з хаты,
І ў свет падаліся яны,
На святы і страты багаты,
Квяцісты, іскрысты, стракаты,
Напоены хмелем вясны.

Іх мары высока ляцелі,
І ў свеце, чужым ім, хлапцы
Штось добрае здзейсніць хацелі,
Іх людзі прыкмеціць паспелі,
Хвалілі іх: «Вось малайцы!»

Адзін з іх у прымы падаўся —
Двор, хата — і стаў гаспадар.
У зыбцы сынок загайдаўся,
А ён без трывогі ўглядаўся
З акна у бязмежны абшар.

Другога ж уладна пазвалі,
Зайграўшы на гуслях, вятры.
Сірэны прывабна спявалі,
Люлялі бурлівыя хвалі,
Адносілі на віры.

Пакуль ён стыхію адолеў,
Знямогся, аброс барадой,
І вецер залёг, што сваволіў,
Суцішылася наваколле,
І холад паплыў над вадой.

Вясна абяцае мне ўдачу,
Буяе наўкол — без мяжы.
Як хлопцаў вясёлых убачу,
Здаецца, што зараз заплачу...
Ах, божа, дапамажы!

# ТУГА

Свяціліся золатам зоры,
Плыў серпік маладзіка.
Здалёку, праз долы і горы
Мне чуліся гукі ражка.
Здалося, як быццам гару я.
З акна не спускаючы воч,
Падумаў: «А хто там вандруе
У гэтую летнюю ноч?»

І ўбачыў, што там вандравалі
Два маладыя сябры,
І песню яны напявалі,
Праходзячы міма гары.
Спявалі пра горныя пікі,
Пра лес, што разлёгся наўзбоч,
Пра вадаспад, што, як дзікі,
Звяргаецца ў цёмную ноч.

Спявалі пра сад запусцелы,
Пра мармур у цвілі і ў тле
І пра палац ацалелы
У маладзіковым святле,
Дзе песень гітары чакаюць,
З акна не спускаючы воч,
Дзяўчаты, дзе ціха сцякаюць
Рачулкі у летнюю ноч.

## ВАНДРОЎНЫ СТУДЭНТ

Пры бязвоблачнай пагодзе
Добра слухаць салаўя.
А як дожджык дробны пойдзе,
Сам сабе спяваю я.

Свет прасветленым здаецца.
Хоць грамы грымяць парой,
У вандроўцы не псуецца
Аніколі мой настрой.

Я дастану кніжку з сумкі,
Што там пішуць, зазірну.
Каб не блыталіся думкі,
Чарачку віна кульну.

Буду з месяцам на пару
Аж да ранку вандраваць,
Прыгажуні пад гітару
Песні пад акном спяваць.

## ШЧАСЛІВЫ

Зачараваны яе красою,
Бялюткім тварам, тугой касою,
Зірне — азорыць усю зямлю,
О, як я вочы яе люблю!

Як быццам ноччу між скалаў змрочных
Прамень зайграе па травах сочных,
І птаства пырскамі ўвысь шугане —
Так страпянецца душа ў мяне.

Як быццам зверху глядзець на мора,
Як сокал дзікі ў сіняй прасторы
Вядзе ушыркі свае віражы —
Так і каханне не знае мяжы.

## ШЧАСЦЕ ПАЭТА

О, свет, я табе невядомы,
З табою мы — не сябры.
Затое заўсёды як дома
Я ў вечаровай зары.

Фартуна, ляці ў паднябессе,
Лунай сабе ў вышыні.
А я між аленяў у лесе
Не засумую ані.

Даўно я ад роднага краю
Падаўся ў чужую зямлю,
І ўсё ж я заўжды бласлаўляю
Куточак, што сэрцам люблю.

# МАЛАДЫ МУЖ

Чакаючы дзяўчыну,
Пад ліпай я сядзеў,
З пагорка у даліну
На дом стары глядзеў.
Над дахам зоркі ззялі —
Там мілая жыла.
А з пацямнелай далі
Ноч летняя плыла.

З каханай размаўляем,
Сядзім — рука ў руку,
Пад ліпаю люляем
Сыночка ў халадку.
А ветрык павявае,
Прыносіць водар ніў,
І ліпа штосьспявае...
Ці гэта я сасніў?

# ВЕЧАР

Мы ў радасці і ў горы
Рука ў руку ішлі.
Цяпер спачыць ад зморы
Прыпалі да зямлі.

Нам каласы ківаюць,
Гусцее змрок ляны.
Два жаўранкі спяваюць,
Застаўшыся адны.

Мы жахі ўсе прагонім,
Птушыны хор засне.
Націху пагамонім —
Падсунься да мяне.

Заціхлі сонна далі.
Ружовіцца зара.
Мы, ідучы, прысталі...
Ці паміраць пара?

## КУДЫ?

Арол з гары уверх памкнуўся —
Праз буру, бліскавічны гром.
Прасторай вольнай захлынуўся,
Згубіў скалу сваю з гняздом.
Пад ім ляжалі ў змрочнай далі
Палі, пагоркі і сады.
А крылы ўсё яго ўздымалі
Над бурным морам... А куды?

## ЗНІКЛА

Ужо няма старой сасны,
Што тут калісь стаяла.
З яе я ў квецені вясны
Глядзеў удаль, бывала.

Няма і лесу ўжо, які
Шумеў па-над гарою,
Як я ад мілай нацянькі
Бег позняю парою.

Няма даліны лугавой
З касулямі на пашы,
Куды хадзілі мы з табой...
Дзе тыя ночкі нашы?

Ёсць лес, даліна, ёсць сасна,
Вясна квітнее звыкла.
А ў нас у скронях сівізна.
Кудысь каханне знікла...

## БЛАКІТНАЯ КВЕТКА

Па свеце задумна блукаю
З пакутнаю марай сваёй:
Блакітную кветку шукаю,
Гавораць, што шчасце у ёй.

Праз гарады і палеткі,
Спяваючы песню, іду.
Дык дзе ж ты, блакітная кветка?
Няўжо я цябе не знайду?

Здарожыўся, замарыўся
І ногі падбіў я дарма.
Спяваць перастаў, зажурыўся:
Той кветкі блакітнай няма.

## ПЕСНЯ БЕДНЯКА

Каб жа летняя спякота,
Каб жа сонца поўны двор! —
Я пайшоў бы за вароты
У стары вячысты бор.

Я прылёг бы ў цень пад дрэвы —
Спачывай, душа мая! —
Слухаў бы я перапевы,
Пералівы салаўя.

Ды, на жаль, усё пакрыта
Белым снегам — без мяжы.
Цэлым светам я забыты...
Гэты горад мне чужы.

Толькі позція гулякі
Забягаюць у двары.
Дзіка выюць вурдалакі,
Задзімаюць ліхтары.

Дзесь святло ў акне я ўбачу —
Пляма падае на снег.
Хтосьці там смяецца, скача.
Плачу я пад гэты смех.

Пачынае злосна біцца
Лютая завея зноў.
Далятае са званіцы
Песня сумная званоў.

Пабрыду к царкве ў знямозе,
Спеў пачую, нібы ў сне.
Павалюся на парозе,
Ноч захутае мяне.

Хай вас бог святы бароніць,
Хай спакой у дом нясе...
Хто танцуе, хто гамоніць —
Тут спачнуць калісьці ўсе!

## КУДЫ?

З гор ручаёк збягае,
Булькоча пад лазой,
З крыніцы выцякае
Празрыстаю слязой.

А мне чамусь трывожна...
Як зрушаны штуршком,
Бягу з кійком дарожным
Уніз за ручайком.

Ручай між гор віецца,
Я ўгнацца не магу.
А ён звініць, смяецца,
Гамоніць на бягу.

А я пра ўсё забыўся.
Куды імчуся я?
Я з панталыку збіўся
Ад звону ручая.

Звон ручая? Ды годзе...
Здаецца мне парой:
Русалкі ў карагодзе
Спяваюць пад гарой.

Спявай, мой друг вясёлы,
Не прыцішай хады,
Скрыпяць у млына колы
Ля плыткае вады.

## ВАЗЬМІ МАЁ СЭРЦА

Я б словы на дрэвах нажом выразаў,
Я б словы на камені сталлю пісаў.
Я б кветкі пасеяў на пульхнай зямлі,
Каб словамі потым яны ўзышлі,
Лісты табе слаў бы з кожнай нагоды:
Вазьмі маё сэрца сабе назаўсёды.

Шпачка маладога зла віў бы вясной,
Каб гэтыя словы вучыў ён са мной,
Каб мог нават голас ён мой падрабляць,
І горача словы,— як я,— вымаўляць,
І ўранку спяваць ля акна з асалодай:
Вазьмі маё сэрца сабе назаўсёды.

Хацеў бы, каб гэта шапталі вятры
У полі, на лузе, на дзікай гары,
Каб гэтыя словы між кветак цвілі,
Каб з водарам хмельным здалёку плылі,
Каб хвалі прыносілі без перашкоды:
Вазьмі маё сэрца сабе назаўсёды.

Гарадь у мяне яны ў зрэнках вачэй,
Палаюць на шчоках ярчэй і ярчэй,
І нема крычаць яны з вуснаў маіх,
Хвіліны адной не жыву я без іх.
А ты іх не бачыш, не чуеш праз годы:
Вазьмі маё сэрца сабе назаўсёды.

## СЛЁЗНЫ ДОЖДЖ

Мы хораша разам сядзелі
Пад ніцаю вярбой.
Мы ўніз на ручай глядзелі
Так хораша з мілай маёй.

Тады маладзік з'явіўся
І зорачак грамада.
Мы разам усё глядзелі,
Што адбівае вада.

Я не ўзіраўся ў зоркі,
Ні ў месяц, які міргаў.
У гэтым срэбным люстэрку
Я любыя вочы шукаў.

З вады пазіралі ласкава
Пяшчотныя светлячкі,
І ім усміхаліся кветкі
З берага ціхай ракі.

Здавалася, што патанула
Неба начное на дно.
Чамусьці й мяне цягнула
Туды да сябе яно.

Паверх жа аблокаў і зорак
Бадзёра ручай булькатаў.
«Мой друг, пабяжым са мною»,
Як быццам бы мне шаптаў.

Мне слёзы напоўнілі вочы.
Пайшла рабізна па вадзе.
Яна заспяшала дадому,
Сказала мне: «Дождждык ідзе».

## ПЕРШЫ БОЛЬ, АПОШНІ БОЛЬ

Прысядзь на стромкі бераг,
Каля вады, на край,
І дзеткам, што збяруцца,
Ты на трубе зайграй.

Сплыло былое шчасце,
А гора — наплыло.
Складай жа смела песні
Пра тое, што было.

Буяюць тыя ж кветкі,
Ручай бяжыць з гары.
І тое ж сонца свеціць
Ад даўняе пары.

Уранку сонца ў вокны
Заспана паглядзіць.
Там за знаёмай шыбай
Каханая сядзіць.

Там хлопец-паляўнічы
Мёд пацалункаў п'е.
Як зырка свеціць сонца!
Як ручаёк пяе!

Нарву букет вялізны...
Хай у тваім акне,
Каханая, ён хлопца
Схавае ад мяне.

Засыплю мост ля млына
Я ружамі ў журбе.
Праз гэты мост спяшаў я,
Каханая, к табе.

Калі ж хлапец растопча
Мне ружу хоць адну,
Зваліся ж, мост, у продань
З хлапцом на быстрыню.

Хлапца на голы востраў
Зясі — хай там сядзіць.
Каб век дзяўчат не бачыў,
Не мог да іх хадзіць.

Ты ж, любая, забудзеш
Навек таго хлапца.
І зноў маёю будзеш
Да смерці, да канца.

## РУЧАЁВА КАЛЫХАНКА

Дабранач! Засні!
Як след адпачні,
Вандроўны, здарожаны чалавек.
Цябе ля мяне
Ніхто не кране —
Ручай не пакрыўдзіць нікога павек.

Паспі ў халадку,
На пухавіку —
Страха над табою без краю-канца.
Ноч будзе ўздыхаць,
Цябе калыхаць,
Спяе калыханку на сон для хлапца.

Далёка ў бары
Затрубяць сябры...
Хай сёння яны папалююць адны.
Чарот, памаўчы,
Трава, не шапчы,
Не ўносьце трывогі ў юнацкія сны.

Дзяўчына, ідзі,
Яго не будзі
Ні скрыпам мастка і ні ценем сваім.
Скінь лепей хутчэй
Хусцінку з плячэй,
Зраблю я шацёр невялічкі над ім.

Дабранач цяпер...
Спіць птушка і звер.
І ты развітайся з гульбой і журбой.
Плыве маладзік.
Туман ужо знік.
І скопішча зорак гарыць над табой.

## ДАБРАНАЧ!

Я чужаком прыходзіў,
Сыходжу зноў — чужы.
А май мяне праводзіў
З букетам да мяжы.
Ты пра любоў шаптала,
А маці — пра сям'ю.
Завея замятала
Дарожаньку маю.

Я часу для паходаў
Не выбіраў знарок:
Іду праз непагоду,
Праз непраглядны змрок.
Са мною у начлезе
Спіць месяц-маладзік.
Вядзе мяне па снезе
След, што пакінуў дзік.

Дае мне хтосьці знакі,
Калі пайсці пара.
Завылі ўжо сабакі
З двара гаспадара.
Любоў вандроўкі любіць —
Так бог сказаў — не смех.
Спакой яе загубіць.
Дабранач! Я пабег.

Над соннаю табою
Не спуджу цішыню.
Я дзверы за сабою
Нячутна прычыню.

І на варотах дбайна
«Дабранач» напішу,
Каб знала, што патайна
Цябе ў душы нашу.

# У ВЁСЦЫ

Там брэшуць сабакі, грымяць каля будкі,
Там людзі паснулі да ранняй пабудкі.
Прысняць сабе тое, чаго не хапае —
Іх мара на зло і дабро не скупая.

А ўранку зляцела яна і прапала.
І рады таму хоць, што ў сон іх папала.
Падушку прытуляць і думаюць людзі,
Што лепшы працяг яшчэ некалі будзе.

Брашыце, сабакі, за пяты хапайце,
Не дайце у сон мне зваліцца, не дайце!
Я марам даўно перастаў аддавацца.
Між сонных на міг не хачу заставацца.

## ВЯСНОВЫ СОН

Мне сніліся кветкі на лузе,
Што хораша так цвілі.
Мне сніліся вольныя птушкі,
Што пелі і гнёзды вілі.

Калі ж праспявалі пеўні,
Прачнуцца прыйшла пара.
Змрок панаваў і холад,
Крычалі вароны з двара.

А шыбу хтось упрыгожыў
Кветкаю як жывой.
Вам смешна: ах, летуценнік,
Ён кветкі ўбачыў зімой.

Прыснілася мне каханне,
Дзяўчына — сама пекната,
Абдымкі і пацалункі,
Душэўная любата.

Калі ж праспявалі пеўні,
То ўздрыгнула сэрца ў мяне.
Прыпомніў я на самоце:
А што там было — у сне?

Я зноў заплюшчваю вочы.
Так хораша сэрцу майму.
А ці расцвіце мая кветка?
Каханую — ці абдыму?

# КАТРЫНШЧЫК

На вуліцы вясковай,
Дзе ціша і спакой,
Стары катрынку круціць
Азяблаю рукой.

На колкім снезе босы
Пераступае дзед.
А на яго талерцы
Няма пакуль манет.

Яго не хочуць слухаць,
Не хочуць прыкмячаць.
Вакол сабакі злосна,
Ашчэрана вурчаць.

Стаіць ён, безуважны
На беды ўсе свае.
Ён круціць, і катрынка
Усё пяе, пяе.

Вазьмі мяне, дзядуля,
У дальні шлях з сабой!
Я пад тваю катрынку
Напоўню верш журбой.

## АДЗІНОТА

Ступае май вясёлы
Па лесе, праз палі,
І кветкі ўжо паўсюды
Строката расцвілі.

Я ўзяў кіёк дарожны,
Рукзак стары знайшоў,
Бязмэтна па дарозе
У белы свет пайшоў.

А нада мною птушкі
Закрылі небакрай.
Спяваюць, гамоняць, сакочуць —
Прастора ім, як рай.

Вандроўны брыдзе ў адзіноце,
Маўклівы, ідзе і ідзе.
Рукзак яму ціснe на плечы,
Прытулку не бачна нідзе.

Калі б мы ішлі грамадою,
Дарога б лягчэйшай была...
Ці хоць бы адна дзяўчына
Побач с мною ішла.

# НЯВЕСТА МУЗЫКАНТА З ПРАГІ

Вядома вам, хто мілы мой?
Ды ў Празе музыкант.
Іграе ён найлепш за ўсіх
І першы рызыкант.

Вядома вам, дзе мілы мой?
Не знае й бог таго.
Лістоў пісаць не ўмее ён —
Я ў думках у яго.

А думкі — незямная рэч,
Вачыма не відаць.
Адкуль ідуць, куды лятуць —
Хто можа адгадаць?

Ці будзе для цябе спакой,
Музы́кава душа?
Цябе ўжо вабіць цэлы свет,
Ды Чэхія — спярша!

Вандруй праз сёлы, гарады,
Хай Непамук святы
Струну і смык благаславіць,
Каб граў чароўна ты.

І дзе б ты, любы, ні зайграў,
Хай, чуючы здалёк,
Навострыць вушы добры люд,
Прыхопіць кашалёк.

Дзяўчат уразіць прыгажосць,
Мужчын жа — спрыт рукі.
«У ім загадкавае ёсць!»
«А музыкант які!»

А ты зайграй ім пра мяне,
І я адсюль, павер,
Адчую любячай душой,
Дзе ходзіш ты цяпер.

Пачую словы сэрцам я,
Што цяжка зрыфмаваць.
«Я з першым жаўранкам прыйду
У Чэхію спяваць».

# ГОРЫ І ДАЛІНЫ

Унізе мілая жыве,
А я — на той гары.
Не лёгка сустракацца нам,
Што там ні гавары.

Стаіць скала, нібы сцяна.
Як лазіць па сцяне?
Без гор было б куды лягчэй
Да мілай бегаць мне.

Мне бацька раіць: «Прывядзі
Сюды, каб разам жыць».
Дзяўчына кажа: «Не магу
Свой дом чужынцу збыць».

Стаіць скала, нібы сцяна.
Распраўся, бура, з ёй,
Каб мог я мілую назваць
На ўсё жыццё сваёй.

# ВЫКЛІК

Я капялюш зялёны
З даўгім пяром нашу.
Убор прыгожы маю
І дзёрзкую душу.

Быў певень задзірака,
Яму я не ўступлю.
Найлепшую на свеце
Дзяўчыну я люблю.

Твая, ты кажаш, лепей?
Ты ўпэўнены даўно?
Давай памерым пёры
І сілы заадно!

Няхай мяне паваліш.
Няхай я там памру.
Ды слоў сваіх да скону
Назад не забяру.

Звядзі ты ляльку ў горад,
Яе там лёгка збыць.
У вёсцы гэткай вабнай
Няма чаго рабіць.

Звядзі ты недатыку
У манастыр святы.
Бо як з такой нявіннай
Любіцца будзеш ты?

## ЗГРАБНАЯ ШЫНКАРКА

Гаспадыня-прыгажуня!
Між бутэлек стройных, зграбных
Вабіць гаспадынін стан.
Пачастуй жа з ручак вабных,
Сёння я твой раб і пан.

Гаспадыня-прыгажуня!
Тваё цененькае цела
Можна пядзяй абхапіць.
Налівай жа ў кубак смела,
Я сягоння буду піць!

Гаспадыня-прыгажуня!
Я люблю дзяўчыну стройнай,
А бутэльку — каб паўней.
З гэтай смагай неспакойнай
Я іду праз гушчу дней.

Гаспадыня-прыгажуня!
Стройны келіх срэбназвонкі
Абдыму пяшчотна я.
Ён, і праўда, гэткі ж тонкі,
Як і талія твая.

Гаспадыня-прыгажуня!
З тонкіх пляшак наліваеш,
З тых, што лёгка так разбіць.
Гнуткай, зграбная, бываеш,
Ломкай жа не можаш быць.

Гаспадыня-прыгажуня!
Не пад сілу мне падняцца,
Кубак выцадзіў да дна.
Ах, каб з гэткаю абняцца,
Я б не піў павек віна!

## СТАРАЯ ШАТЛАНДСКАЯ ПЕСНЯ

Калі б паміж чырвоных руж
Мая каханая цвіла,
Я б да яе расой прыпаў,
Маленькай кропелькай святла.

Каханая мая, мая,
Я так любуюся табой.
Як гляну толькі ў мілы твар,
Сустрэну ясны позірк твой.

Калі б зярняткам на зямлі
Ляжала мілая мая,
Тады б падскочыў вераб'ём
І ў дзюбу ўзяў зярнятка я.

Каханая мая, мая,
Я так любуюся табой.
Як гляну толькі ў мілы твар,
Сустрэну ясны позірк твой.

Калі б каханая мая
Была шуфлядай залатой,
Тады б зрабіўся я ключом —
Вартаўнікам скарбонкі той.

Каханая мая, мая,
Я так любуюся табой.
Як гляну толькі ў мілы твар,
Сустрэну ясны позірк твой.

# РАКАВІНКІ

Пяшчотна гладзяць хвалі
Берагавы мысок
І ракавінкі з мора
Выносяць на пясок.

Дачка сям'і рыбацкай —
Кахання самы ўзрост —
Бяжыць з вялікай сеткай
Да хваль марскіх наўпрост.

Зняла з дзявочых ножак
Сандалікі свае,
Спаднічку падкасала,
Каб не змачыць яе.

Пайшла па белай пене,
Па жорсткім грунце дна
І ракавінкі ў сетку
Накідвала яна.

Напоўніла да краю,
Ды мала ёй, відаць,
Таму і пачала іх
Сабе ў падол кідаць.

А мора заіграла,
Як быццам ажыло,
За падалом дзявочым
Уверх яно расло.

Дзяўчына закрычала,
Як трапіла ў бяду,
І, што было ў падоле,
Рассыпала ў ваду.

Я зняў дзяўчыну з хвалі,
Спужаўся, што знясе,
І ракавінкі хутка
Сабраў амаль усе.

Я з імі пацягнуўся
Рукой да падала.
Дзяўчына ж з нейкай злосцю
Мне сетку падала.

Дык поўная ўжо сетка,
Хоць зверху патапчы.
Дзяўчынка, я ж не хваля —
Не бойся, не крычы.

## РАНІШНЯЯ ПЕСНЯ

Хто там гуляе пад акном,
Грукоча ў аканіцу?
То вецер ходзіць хадуном,
Не хоча ўгаманіцца.

«Выходзь, выходзь, пайшлі са мной! —
Гарэза выклікае.—
Тут пахне сонцам і вясной!
А пекната якая!

Ці чуеш, як жукі гудуць
Над веснаю старонкай?
Нібы схмялелыя лятуць
І ў шыбы б'юцца звонка.

Паміж галінак, па траве
Праменьчык прабягае.
Прачніся! Ён цябе заве,
Смяецца і міргае.

А салавей... Як ён свістаў,
Як ён спяваў і шчоўкаў!
Ты з ложка соннага не ўстаў,
Замоўк цяпер салоўка.

Я стукаю табе ў акно,
На волю выклікаю.
Выходзь! Вясна цвіце даўно,
Яна не пачакае».

## ЗМЕСТ

ЛЮДВІГ УЛАНД

**Веру ў вясну**



ЁЗЭФ АЙХЕНДОРФ

**Закаханы вандроўнік**

## ВІЛЬГЕЛЬМ МЮЛЕР

### Зграбная шынкарка

З-18 **Закаханы** вандроўнік: Паэзія ням. рамантызму/Уклад. і пер. з ням. мовы У. Папковіча; Прадм. І. Лапіна.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 142 с.: іл.— (Паэзія народаў свету).

ISBN 5-340-00289-6 (беларус.).

Влюбленный скиталец: Поэзия нем. романтизма.

Кнігу склалі вершы нямецкіх паэтаў-рамантыкаў XIX стагоддзя, якія апяваюць каханне, родны край, маладосць, жыццё.

**З $\frac{4703010200-049}{М\ 302(03)-89}$ 156—89** **ББК 84.4Г**

*Литературно-художественное издание*

**ВЛЮБЛЕННЫЙ СКИТАЛЕЦ**

**Поэзия немецкого романтизма**

*Перевод с немецкого языка*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ЗАКАХАНЫ ВАНДРОЎНІК**

**Паэзія нямецкага рамантызму**

*Пераклад з нямецкай мовы*

Рэдактар В. С. Сёмуха. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар А. І. Цароў. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Л. Т. Калюжная.

ІБ № 3122

Здадзена ў набор 06.09.88. Падп. да друку 29.12.88. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера мелаван. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,27. Ул.-выд. арк. 4,12. Тыраж 2600 экз. Зак. 1796. Цана 75 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

